PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 46 (1853) 17 ЛІСТАПАДА 1991 г. ЦАНА 1000 зл.



*Бельскія „Васілёчкі" з палявымі васілёчкамі. Чэрвень 1980г.*

## ЦІ БУДУЦЬ ЯШЧЭ СПЯВАЦЬ „ВАСІЛЁЧКІ"?

**Размова з СЯРГЕЕМ ЛУКАШУКОМ, дырэктарам Бельскага дома культуры, мастацкім кіраўніком многіх аглядаў беларускай песні, шматгадовым дырыжорам бельскіх „Васілёчкаў".**

**„Ніва":** *У апошні час паявілася вельмі сумная вестка — самы папулярны беларускі мастацкі калектыў у Польшчы, хор „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага прыпыніў сваю дзейнасць. Пакуль пагаворым пра прычыны гэтага, скажыце, якія былі ягоныя пачаткі.*

**Сяргей Лукашук:** „Васілёчкі" ўзніклі ў 1964 годзе. Стварыў хор мой стрыечны брат Аляксандр Лукашук. Потым, каля аднаго года, кіраваў калектывам Юры Шурбак, затым з месяц Сцяпан Копа, зноў Аляксандр Лукашук, пасля яго Міхась Артышэвіч, і ад 1970-га — я.

*— Гэта быў Ваш першы кантакт з хорам?*

— Не, мой першы кантакт з „Васілёчкамі" меў месца ў 1967 годзе. Працаваў я тады кіраўніком Пачатковай школы ў Галадах, было мне тады ўсяго якіх 22 гады. Пад школу заехала міліцыйная „ныска" — здорава яна мяне напалохала. Выйшаў з яе лейтэнант (як высвятлілася, Васіль Антыпюк, адзін з харыстаў) і сказаў: мы чулі, што Вы крыху граеце на гармоніі, ці не маглі б Вы нам акампанаваць? Тадышні акампаніятар прадаў свой інструмент і яго звольнілі. Прыехаў я ў Бельск — рэпетыцыі тады праводзіліся ў ратушы — далі мне чорную гармонію, дазволілі з паўгадзіны паслухаць і трэба было граць. А ў нядзелю ўжо быў першы канцэрт. Я граў тры песні, астатнія хор спяваў без акампанементу. Зрэшты, што гэта былі за песні — у большасці „баявой славы" і таму падобнае.

*— Адкуль узялася назва хору? Ці была яна такая ад самага пачатку, ці паявілася пазней?*

— Значна пазней. Дзесьці ў 1973 годзе спявалі мы песню Куліковіча-Шчаглова „Васілёчкі", песня нам спадабалася, назва пайшла ад яе. Потым усе нашыя выступленні пачыналіся гэтай песняй, яна стала візітнай картачкай хору.

*— Ці не баяліся Вы выконваць твор забароненага ў той час эміграцыйнага кампазітара?*

— Ніхто з нас тады пра Куліковіча нічога не ведаў. А песню знайшоў я на гарышчы будынку БГКТ, у зборніку, які не меў ні вокладак, ні першай, ні апошняй старонак.

*— Вы супрацоўнічалі з „Васілёчкамі", хаця не жылі ў Бельску...*

— Так, у гэтым горадзе я ад 1973 года. Раней працаваў, як я ўжо сказаў, у Галадах (адразу пасля арміі), у 1970-73 г.г. быў я культурна-асветным кіраўніком у БГКТ, тады і пачаў завочна вучыцца ў Дзяржаўнай вышэйшай музычнай школе ў Варшаве. У Бельску я год настаўнічаў у Пачатковай школе н-р 3, а ад студзеня 1975 г. з'яўляюся дырэктарам Дома культуры. Па-рознаму было з даездамі на

( Працяг на стар. 6 )

## У КЛЮКОВІЧАХ І СЯМІХОЧАХ

Клюковічы і Сяміхочы гэта вёскі ў былым Сямяціцкім павеце, на ўсход ад Нурца-станцыі. Клюковічы ўжо на самай мяжы з Беларуссю, Сяміхочы — пару кіламетраў ад яе. З беластоцкай перспектывы гэтыя мясцовасці ў вельмі нязручным месцы, збоч усялякіх шляхоў і зацікаўлення. Рэдка сюды і заглядаюць са сталіцы ваяводства, а калі ўжо хто і завітае, дык не выклікае даверу — ён проста чужы.

Так было і з намі: Юркам Ляшчынскім з Беластоцкага радыё і мною, у палове кастрычніка. Дырэктаркі пачатковых школ, у Клюковічах Анна Міткевіч і ў Сяміхочах Ірэна Кочук, адмовіліся даваць якія-колечы інтэрв'ю. Няма згоды асветных уладаў, можа не трэба чаго казаць — аднекваліся яны. Але падставовыя інфармацыі пра свае школы нам далі.

У Сяміхочах у васьмі класах вучыцца 115 дзяцей. Даходзяць і даязджаюць яны сваім транспартам з шасці вёсак: Столпцаў, Вулькі-Нурэцкай, Вэрпаля, Тымянкі, Пішчаткі і Анусіна. У школе нядрэнныя ўмовы навучання, няма ніводнага спалучанага класа. Ёсць цэнтральнае ацяпленне, кухня, сталовая, выдаюцца абеды. У школе працуе 11 настаўнікаў. Дырэктарка Ірэна Кочук лічыць, што працаваць тут няблага, дзеці паслухмяныя, спакойныя, добрая атмасфера сярод настаўнікаў. Не хацела б яна памяняць сваю школу на гарадскую, пераважна перапоўненую, з пастаянным вэрхалам, шумам, напружаннем.

У школе ў Клюковічах значна горшыя ўмовы працы. Тут усяго 60 дзяцей, але ўсе класы спалучаныя: першы з другім, трэці з чацвертым, і так аж да сёмага і восьмага класаў. Дзеці ў гэтай школе таксама з розных вёсак і хутараў, але няма тут кухні, няма гарачай стравы. У школе працуе сем настаўнікаў. Чацвёра дзяцей вывучае беларускую мову (у Сяміхочах ужо не вывучае ніводнае), навучае іх дырэктарка Анна Міткевіч.

Да гэтага кутка Беласточчыны не ўсе яшчэ грамадска-палітычныя змены ў краіне дайшлі. Школа ў Клюковічах усё яшчэ імя Юрыя Бурыча, былога гмінnага сакратара ППР (Польскай рабочай партыі), які загінуў „выконваючы партыйную працу" ў жніўні 1946 года. Ранейшы герой, згодна з прынятымі цяпер нормамі, з'яўляецца ўжо здраднікам і супрацоўнікам акупантаў. Але адносіны мясцовых людзей да яго

( Працяг на стар. 4 )




# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

**ДЗВЕ ЎРАЧЫСТАСЦІ**
— 1 —

У часе двух маіх побытаў у Мінску ў кастрычніку бягучага года давялося мне пабываць на двух урачыстасцях у вышэйшых установах Менска. Першая з іх мела месца ў Педагагічным інстытуце імя Горкага. Кіраўніцтва інстытута запрасіла мяне і майго намесніка ў Галоўным праўленні БГКТ Янку Сычэўскага. Давялося нам сесці ў прэзідыуме, а мне нават прамовіць да сабраных. Урачыстасць была звязана з фактам адкрыцця новага Факультэта беларускай філалогіі і культуры. Дагэтуль у педінстытуце не было такой структуры. Існавала беларускае аддзяленне, на якое прымалі па некалькі дзесяткаў чалавек. Зрэшты, вывучалі яны не „чыстую" беларускую філалогію, а беларускую, спалучаную з рускай. Такая невялічкая групка студэнтаў-беларусістаў сведчыла аб упадку беларусістыкі ва ўсёй краіне і аб тым, што запатрабаванне на настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры было вельмі малое. Сёння ў выніку вядомага адраджэнчаскага працэсу сітуацыя змянілася радыкальным чынам і на адчыненым Факультэце беларускай філалогіі і культуры апынулася болей чым пяцьсот чалавек. Усё гэта студэнты, якія будуць вывучаць беларускую мову, літаратуру і культуру з той мэтай, каб у будучым свае веды несці ў школы і розныя ўстановы. Прыемна было глядзець на аграмадную залу, шчыльна запоўненую галоўным чынам маладымі дзяўчатамі і навуковымі супрацоўнікамі. Не менш прыемна было слухаць даклады і прывітанні, якія ў ста працэнтах вяліся на беларускай мове. Яшчэ год таму назад нешта такое было б немагчымым, тады мусілі быць захаваны разумныя прапорцыі, якія праяўляліся ў рашаючай перавазе рускай мовы над беларускай.

У сваім слове сказаў я аб пазітыўнай ролі навуковых супрацоўнікаў Інстытута дацэнтаў Васіля Тарасава і Міхала Лазарука, якія ў гадах 1956-1960 выкладалі беларускую мову на Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Шчырую авацыю выклікалі мае словы аб тым, што ўлады інстытута павінны задумацца, ці не варта памяняць патрона інстытута, якім з'яўляецца Максім Горкі, на аднаго з такіх выдатных асветніцкіх беларускіх дзеячоў, як Язэп Лёсік, Антон Луцкевіч, Вацлаў Ластоўскі ці Браніслаў Тарашкевіч. Прыхільную рэакцыю выклікалі і мае словы, што кожны са студэнтаў і навуковых супрацоўнікаў павінен лічыць сябе місіянерам беларускага адраджэння, якое чакае шчырых беларускіх рук і сэрцаў.

Другая ўрачыстасць адбылася ў Вялікім тэатры оперы і балета. Была яна звязана з сямідзесяцігоддзем Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Цяжка мне сказаць, колькі людзей удзельнічала ў гэтым свяце. Думаю, што не меней тысячы. Імпануюча выглядае залітая святлом зала, напоўненая такой масай народу. Пасля даклада рэктара універсітэта выступіў мітрапаліт, які на чыстай беларускай мове сказаў аб тым, што царква, як і ўсё грамадства, будзе беларусізавацца, але для гэтага патрэбны некаторы час. Я памятаў мітрапаліта з яго выступленняў у часе ўрачыстасцей, прысвечаных славянскай пісьмовасці. Тады Філарэт паслугоўваўся выключна рускай мовай і падкрэсліваў „единство всех русских людей".

Мушу прызнацца, што такаяэвалюцыя найвышэйшага прадстаўніка Праваслаўнай царквы ў Беларусі прыемна паказытала маё сэрца. Каб яно так сталася, як сказаў мітрапаліт, дык, быць можа, пры нашым жыцці ўрэшце паявілася б беларуская царква, якая змагла б адыграць аграмадную нацыянальную ролю.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

************************************************************************************




**Упершыню ў гісторыі Савецкага Саюза** не былі афіцыйна арганізаваны святкаванні 74 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Аднак, 7 лістапада ў многіх гарадах адбыліся мітынгі як прыхільнікаў, так і праціўнікаў камуністычнага ладу. **У Маскве** адзначыць гадавіну прыйшло на Чырвоную плошчу больш за дзесяць тысяч чалавек. Удзельнікі дэманстрацыі скандзіравалі імя Леніна. Першапачаткова дэманстранты-камуністы сабраліся на Кастрычніцкай плошчы сталіцы, ля аднаго з апошніх не дэмантаваных помнікаў Леніну. Удзельнікі мітынгу асудзілі ўказы Барыса Ельцына аб забароне дзейнасці Камуністычнай партыі Расіі і КПСС на тэрыторыі РСФСР. Прамоўцы крытыкавалі кіраўніцтва краіны, называючы яго здрадніцкай клікай Гарбачова-Ельцына.

**У Менску** , нягледзячы на забарону гарадскіх уладаў, другі сакратар ЦК былой КПБ Віктар Чыкін вывеў 7 лістапада камуністаў на кастрычніцкі мітынг. Абвясціў ён, што ў гэты дзень на плошчы Леніна адбудзецца сустрэча дэпутатаў-камуністаў з выбаршчыкамі, што само па сабе адпавядае літары закону. У адзінаццаць гадзін на плошчы сабралася некалькі тысяч чалавек. Віктар Чыкін парушыў дадзенае выбаршчыкам абяцанне пра сустрэчу з дэпутатамі і насуперак законаў павёў калону па праезджай частцы Ленінскага праспекту ў бок парку Горкага, дзе адбыўся мітынг.

**10 лістапада ў Беластоку**, напярэдадні Свята незалежнасці, адбылася ўрачыстасць адкрыцця помніка **Юзэфу Пілсудскаму**. Гэта першы помнік у межах Польшчы ад 1939 г., першы зроблены нанава, арыгінальны. Беластоцкі помнік паўстаў дзякуючы намаганням Таварыства памяці Юзэфа Пілсудскага.

Па ініцыятыве групы беластоцкіх выкладчыкаў студыі культуры ў Вільні ў Беластоку створаны **Камітэт дапамогі палякам на Літве і Беларусі**. Апрача матэрыяльнай дапамогі будуць весціся сямейныя парады, прафілактыка і барацьба з алкагалізмам.

**Улады Гродзенскай вобласці** вырашылі закрыць ад 10 лістапада г.г. для прыватных асоб **гранічны пункт Брузгі — Кузніца-Беластоцкая**. Перасякаць граніцу могуць толькі ўладальнікі дыпламатычных і службовых пашпартаў, а таксама людзі, выезд якіх вымушаны жыццёва важнымі выпадкамі. Рашэнне аб закрыцці матывуецца неабходнасцю паляпшэння санітарных умоў на гранічных пунктах.

**Дні культуры Беласточчыны на Гродзеншчыне** — гэта шырокая прэзентацыя польскай творчасці, якая праходзіць ад 13 да 17 лістапада ў Гродне, Лідзе, Ваўкавыску, Ашмянах і Навагрудку. Імпрэза — рэвізіт Панарамы культуры Гродзеншчыны, якая адбылася ў 1989 годзе на Беласточчыне. На Гродзеншчыну выехалі: аркестр Беластоцкай філармоніі, лялечны тэатр, аматарскія фальклорныя калектывы, літаратары і навукоўцы.

# ЗБОЖЖА ЗА ПАЛІВА

Ажыццяўляюцца планы кіраўнікоў бельскай суполкі „Амега" Барбары Бабулевіч, Міраслава Целушэцкага і Валянціна Сельвесюка адносна гандлёвага абмену паміж Беласточчынай і Рэспублікай Беларусь.

18 кастрычніка г.г. на станцыю ў Кузніцы-Беластоцкай прыехаў цягнік з 50-цю цыстэрнамі паліва з Полацкага нафтаперагоннага завода. Гэта і быў пачатак рэалізацыі бартэрнага кантракту суполкі „Амега" з Беларуссю.

За паліва суполка будзе пастаўляць на Беларусь збожжа, якое будзе скупляцца ГСамі, ПЗЗэтамі і Насеннымі цэнтралямі. Падпісаны кантракты вартасцю на 120 тыс. тон збожжа. Можна назваць іх пераломам у эканамічных стасунках Беласточчыны з усходнім суседам. Транспарт паліва ў Кузніцу-Беластоцкую быў першым ад сакавіка 1990 года. Таксама збожжа ніхто не экспартаваў дагэтуль у такім маштабе.

Затрымкай у рэалізацыі гандлёвага абмену з'яўляецца недахоп адпаведнай перагрузачнай базы. Суполка „Амега" купіла мадэрныя загрузачныя машыны дацкай фірмы Kongskilde, якія будуць інсталяваны на чыгуначнай станцыі ў Семяноўцы. Скупка пачнецца зараз пасля інсталяцыйных работ, планаваны тэрмін — палова лістапада г.г. Сваім абсягам ахопіць яна цэлае Беластоцкае ваяводства, але ў першую чаргу раёны Бельска-Падляшскага і Гайнаўкі. Больш дакладныя інфармацыі можна атрымаць у ГС-ах.

Праўленне суполкі „Амега" спадзяецца, што доўгая праца, звязаная з падрыхтоўкай кантрактаў, прынясе добрыя вынікі і аблегчыць цяжкое становішча земляробаў Беласточчыны. Выказвае аднachасна падзяку арганізацыям і ўстановам, якія праявілі шмат добрай волі і памаглі суполцы „Амега" ў ажыццяўленні планаў: Беларускаму дэмакратычнаму аб'яднанню, Ваяводскай управе ў Беластоку, гарадскім управам Бельска-Падляшскага і Гайнаўкі, Аддзелу Дзяржаўнага крэдытнага банку ў Бельску-Падляшскім, Міністэрству гаспадарчага супрацоўніцтва з заграніцай, мытням у Кузніцы-Беластоцкай і Малашэвічах ды ПКП (Польскаму дзяржаўнаму чыгуначнаму прадпрыемству).

**М.В.**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ НА „НІВУ" НА І КВАРТАЛ 1992 г.

**Уплаты на падпіску прымаюць:**

— на тэрыторыю краіны — аддзелы „Рух" і паштовыя аддзяленні, уласцівыя для месца жыхарства або сядзібы падпісчыка. Цана 19500 злотых;
— на замежжа — Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, 00-958 Warszawa, konto PBK, XIII Oddział W-wa, 370044-1195-139-11. Цана звычлай поштай 39000 зл.

**Пастаўка заказанай прэсы адбываецца:**
— аддзеламі „Рух" — спосабам, узгодненым з падпісчыкам;
— паштовымі аддзяленнямі — звыклай поштай на пададзены адрас, у рамках аплачанай падпіскі.

**Тэрмін падпіскі** — да 20 лістапада 1991 г.

**На „Ніву" можна таксама падпісацца ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве**, пералічыўшы грошы на рахунак: ZG BTSK Białystok, ul. Warszawska 11, konto NBP O/O Białystok, 5021-3203-132. БГКТ высылае „Ніву" бандэроллю па пошце. Цана квартальнай падпіскі ў краіне — 39000 зл. Кошт квартальнай падпіскі авіяпоштай у Амерыку — 10 ам. дол., у Аўстралію — 14 ам. дол. Змена цаны падпіскі ў БГКТ можа быць выклікана зменай коштаў паштовай перасылкі.




* Выбарчыя полюсы - погляд Віктара Стахвюка на выніку парламенцкіх выбараў".
* Якое імя будзе мець рыбалаўская школа?
* Помнікі культуры - царква ў Андрыянках.
* Яшчэ аб картах Беласточчыны.
* Тоеснасць Поляка - працяг расказа аб пары ашуканцаў.

# ПРЫСУТНАСЦЬ
студэнцкая старонка

## ЗДАВАЦЬ НА ГІСТОРЫЮ - БАНАЛЬНА

**Размова з Янкам Пракапюком, абсальвэнтам Бельскага беларускага ліцэя.**

— Закончыў я ў гэтым годзе ліцэй Тарашкевіча і цяпер вучуся на славянскай філялёгіі Варшаўскага Унівэрсытэту. Спэцыяльнасьць у мяне — балгарыстыка.

*— Як табе падабаецца Варшава?*

— Вялікі горад, даволі цікавы й вясёлы, зразумела, для тых, якія маюць грошы.

*— Ці малады чалавек з такога гарадка, як Бельск, можа адчуваць сябе ў Варшаве загубленым?*

— Хіба толькі першыя гадзіны. Я вельмі хутка прывык да Варшавы.

*— Дзе жывеш?*

— На „Смыках", гэта значыць, у студэнцкім інтэрнаце на вуліцы Смычковай. Не магу сказаць, каб варункі ў інтэрнаце былі надзвычайныя — адна ўмывальня на паверх, доўга ня было цёплай вады. Але ёсьць і станоўчыя бакі. Жывуць тут, напрыклад, студэнты беларускай філялёгіі, толькі на маім паверсе дванаццаць беларусаў.

*— А з тваё клясы многа асобаў падалося на студыі ў Варшаву?*

— Ня ведаю, бо даўно зь нікім з нашае клясы не спатыкаўся. Адзін хлопец у Галоўнай Гандлёвай Школе напэўна ёсьць. Затое зь іншых клясаў нашае школы, ды й увогуле зь Бельска — людзей тут нямала.

*— Чаму ты паступіў на балгарыстыку? Наколькі мне вядома, тваім „конікам" у ліцэі была гісторыя, ты-ж нават у прадметнай алімпіядзе прымаў удзел.*

— Чаму балгарыстыка? Заўсёды гэта інакш. У гістарычнай алімпіядзе дайшоў я да цэнтральнага этапу, маю нават паперу, якая вызваляла мяне ад уступных экзаменаў па гісторыі на любы кірунак студыяў. Але я лічу банальным здаваць на гісторыю. І так сярод беларусаў гісторыкаў хоць адбаўляй, а балгарыстаў можна палічыць на пальцах аднае рукі.

*— Як ты глядзіш на свой выбар пасьля месяца навукі?*

— Заняткі па балгарскай мове вельмі цікавыя, вядуць іх у большасьці самі балгары. Іншыя прадметы можа менш цікавыя, але ў мяне іх не замнога, я занадта не перамучваюся.

*— А што з экзаменамі?*

— У нас сыстэма гадавога разьлічваньня, таму ня чую яшчэ на плячох цяжару будучых экзаменаў і зьвязанай зь імі працы.

*— На атрасіны беларускіх студэнтаў выбіраешся?*

— На варшаўскія напэўна. Ці буду ў Беластоку, ня ведаю.

*— Якія ў цябе спадзяваньні наконт імпрэзы?*

— Думаю, што атрасіны памогуць мне пазнаёміцца з большаю колькасьцю беларусаў у Варшаве, ня толькі са студэнтамі беларускай філялёгіі. Разьлічваю на ў меру культурную забаву, зь нейкаю думкай. Хацелася-б пабачыць нешта глыбейшае ад звычайнай папойкі.

*— Скажы яшчэ, як вам укладаецца міжнацыянальнае сужыцьцё ў інтэрнаце?*

— Пакуль што магу сказаць толькі пра свой пакой. Жыве са мною шчэ адзін беларус, зь Ляўкова. Адзін хлопец паявіўся толькі раз і з таго часу мы яго ня бачылі. Чацьверты жыхар нашага пакоя — з Лодзі. Ён вельмі цікавіцца беларусамі, усё мяне пра нешта пытае. Я спачатку адказваў на ўсе пытаньні, пакуль не надакучыла мне гэта. Цяпер адсылаю яго да кніжак.

**Размаўляў**

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

*************************************************************************

## ТОЕСНАСЦЬ ПОЛЯКА

*15 красавіка 1991 года ў будынку ГП БГКТ адбылося адкрыцьцё кавярні. Імпрэза прыцягнула была цалкам ладную грамадку беластоцкіх беларусаў. Дыяпазон узросту: ад студэнтаў да пенсіянераў. Пасля ўводнага слова тадышні сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк зафундаваў усім сабраным каву. Людзі групкамі расселіся за столікамі і, як то ў кавярні, завялі дыскусіі. Студэнты прывалаклі з сабою гітару — пачаліся песні. Я хадзіў сабе ад століка да століка і пстрыкаў фатаграфіі, ведаючы, што гэта, няйначай, а марнатраўства плёнкі, бо ў друк і так меў пайсці толькі адзін здымак. Гэтак яно і сталася. Клішы схаваў у архіў.*

*Прайшло некалькі месяцаў. У рэдакцыю зачасцілі людзі, настойліва дапытваючыся пра фатаграфіі з кавярні. Я стаў выкручвацца бракам часу. І толькі недзе ў канцы кастрычніка адна асоба выявіла мне, што на гэтых фатаграфіях можа быць нешта вартае ўвагі. Прадчуванні гэтае асобы пацьвердзіліся. Паслухайце.*

**Расказвае Дарота С. (студэнтка).**

— Першы раз я яго сустрэла ў красавіку, недзе каля паловы месяца. Прадставіўся нам як Януш Збігнеў Поляк, а ягоная сяброўка — Эва, прозвішча не памятаю, але гэта без значэння. Жыла я тады ў акадэміку. Аднаго разу, было гэта перад абедам, пайшла я да свайго сябра, які жыў на некалькі паверхаў вышэй. Скончыліся ў мяне папяросы. Заходжу у пакой да Юркі В., сядаю. Ну, думаю, накуруся даволі. Юрка выцягнуў папяросы і тады ён уключыўся, і давай пра тое, што ён курыць



адны эЛэМы, бо яны самыя лепшыя. Я падумала сабе, што гэта нейкі знаёмы Юркі — ходзіць па пакоі ў расшпіленай кашулі і майтках, валасы на ўсім целе, агіда... Калі пайшоў узяць душ, пытаю Юрку, што гэта за ён. Ведаеш, кажа Юрка, смешная гісторыя. Учора з імі (значыць з гэтым Поляком і ягонай Эвай) пазнаёміўся ў ліфце. Прыехалі з Варшавы да свайго сябра, які вучыцца ў Беластоку. Адразу здаліся мне нейкія сімпатычныя, дык сказаў ім нумар свайго пакою і запрасіў, калі што. І ведаеш, учора вечарам знайшлі гэтага свайго сябру, але высьветлілася, што той мусіць ехаць дахаты, дык аказаліся без прыстанішча. Зайшлі вечарам да мяне, каб даведацца пра гасцініцу, дык я запрапанаваў ім начлег у сябе — я ў пакоі толькі з Маркам М., адна пасцель свабодная.

Поляк і ягоная Эва засталіся на тую ноч у Юркі і Марка — так яно цягнулася ўвесь тыдзень. Спалі ў гэтай свабоднай пасцелі ў хлопцаў — неўзабаве мелі пажаніцца. Поляк шмат пра сябе расказваў, літаральна завальваў нас словамі. А якія анекдоты расказваў! Мы аж заходзіліся ад смеху. Казаў, што яму трыццаць гадоў, але, па-мойму, выглядаў на 25. Эвуня выглядала на яшчэ малодшую. Яна гаварыла пяшмат, але затое ён... Ягоны бацька высокапастаўлены вайсковец ці функцыянер Міністэрства ўнутраных спраў, брат працаваў гінеколагам, добра зарабляў дый яму самому дапамагаў у гандлі камп'ютэрамі. Поляк казаў, што закончыў міжземнаморскую археалогію, ну, і быў халерна начытаны, а прынамсі такое рабіў уражанне. Нейкага дня сказаў нам, што ў Беластоку можна добра прадаць ягоныя камп'ютэры. Пайшоў пазваніць брату ў Варшаву, каб той прывёз пару штук. У брата хуткая заходняя машына — раз-два зробіць інтарэс. Поляк спадзяваўся брата якраз у той дзень, калі мы выбіраліся на адкрыцьцё кавярні ў БГКТ. І ён, і Эвуня пайшлі з намі. Пра беларусаў шмат ведаў, чытаў „Беларусь, Беларусь", чуў пра Яновіча. Сказаў, што не могуць застацца да канца, бо спадзяюцца прыезду яго брата. Перад намі вярнуліся ў акадэмік. Брата ўсё не было. Стаў званіць у Варшаву. У канцы ад бацькі даведаўся, што брат выехаў у Беласток папярэдняга дня вечарам. Па дарозе затрымаўся на начлег у гасцініцы — ноччу ўкралі ў яго машыну. На ўсё было страхаванне, дык Поляк перанаўся толькі тым, што ў брата разам з машынай загінулі ўсе дакументы. Добра прынамсі, што нічога горшага не здарылася, сцвердзілі мы. Поляк і ягоная Эвуня сталі выбірацца ў Варшаву. Мелі выехаць на наступны

( Працяг са стар. 7 )

## БЯРЫЦЕ Ў СВАЕ РУКІ!

На пачатку красавіка гэтага году напісаў я тры занатоўкі: „Сакавіцкая гадавіна" — справаздача са студэнцкага сьвяткаваньня Акту 25 Сакавіка, „У Гарадок на Басовішча" — меркаваньні перад другім Фэстывалем Музыкі Маладой Беларусі ды падзяка беларусам Амэрыкі за грашовую падтрымку для БАСу. Усе тры зацемкі абвагульняла студэнцкая тэматыка. Галоўны рэдактар „Нівы", спадар Віталь Луба, вырашыў увесь гэты матар'ял зьмясьціць пад супольнаю шыльдай — гэтак, пасьля некаторага перапынку, вярнулася да жыцьця ў „Ніве" студэнцкая старонка „Прысутнасьць".

Студэнцкая старонка „Прысутнасьць" узьнікла, бадай, у 1985 годзе. Быў гэта час, калі беларускі студэнцкі рух у Польшчы ствараў свае арганізацыйныя структуры. Як кожнаму маладому руху, беларускім студэнтам неабходна было сваё друкаванае слова — дзеля распаўсюджваньня інфармацыі пра сваю дзейнасьць. Узьнік часопіс беларускіх студэнтаў у Польшчы „Сустрэчы". Аднак-жа, „Сустрэчы" аказаліся выданьнем настолькі калясальным, што выпускаць іх рэгулярна было студэнтам не пад сілу. Вырашыла аб гэтым некалькі чыньнікаў: брак належнага дзеля гэтай справы часу, нулявы журналісцкі вопыт рэдактараў, брак арганізаванасьці рэдактарскай працы ды моўныя клопаты. І таму выпускнік Акадэміі Мастацтваў Лявон Тарасэвіч (сягоньня сусьветная вядомасьці мастак) пачаў прабіваць цалкам іншую ідэю — студэнтам патрэбна свая старонка ў „Ніве". Ідэя гэтая была прыхільна ўспрынята тадышнімі рэдактарамі „Нівы". І так, з тае пары рэгулярна, бо раз у месяц, ня толькі студэнцтва, але ўсе, хто чытаў „Ніву", маглі даведацца з „Прысутнасьці", што дзеецца ў беларускім студэнцкім жыцьці. А студэнты пісалі ўсё: публіцыстыку, гумар, апавяданьні, вершы, пасквілі... Усё гэта адлюстроўвала тое багацьце і каларыт, якім для чалавека зьяўляюцца гады студэнцтва — незабыўныя гады. Таму заклікаю Вас — бярыце „Прысутнасьць" у свае рукі! Самі пішыце! Лістападаўскі выпуск „Прысутнасьці" зьяўляецца апошнім студэнцкай старонкай, якую з выдатнаю дапамогай Міколы Ваўранюка для Вас рэдагую.

Чаму, запытаеце. А таму менавіта, што, як ні дзіўна, ніхто „Прысутнасьці" лепей за Вас саміх ня зробіць. Для Вас пісаньне будзе вясёлаю гульнёю, непаўторнаю. Журналісту-ж, пісаньне — гэта рамяство, кавалак хлеба. „Прысутнасьць" павінна быць студэнцкай і пра студэнтаў. Зараз яна ўсяго пра студэнтаў.

Заўсёды пры нагодзе „Прысутнасьці" мой рэдакцыйны калега Уладзіслаў Пятрук, які ўжо колькі гадоў графічна афармляе „Ніву", паўтарае: „Калі-б мне ў гады студэнцтва нехта даў магчымасьць друкавацца, я-б ня думаў, а скарыстаў-бы!" Скарыстайце й Вы. Здабывайце журналісцкі досьвед. Хто ведае, куды ў жыцьці лёс Вас кіне.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## ПАСЛЯВЫБАРЧЫЯ РОЗДУМЫ

### ЧАС ЗАДУМАЦЦА, ДЗЕ ПАМЫЛКА

(...) Нават найбольшыя ворагі беларушчыны не жадалі, а свае песімісты не прадбачвалі такой пазіцыі беларусаў у выбарах на Беласточчыне. Гэта ўжо не пройгрыш, гэта поўны правал. Беларускі выбарчы камітэт разлічваў на некалькі пасло і нейкія падставы, каб так меркаваць, былі. Скажам, у папярэдніх выбарах у 1989 годзе, ці ў камунальных у 1990 г. Беларускі выбарчы камітэт быў трэцяй палітычнай сілай на Беласточчыне. Да сёлетніх выбараў прыступіў, маючы за сабою падтрымку больш дваццаці тысяч подпісаў сваіх прыхільнікаў. Выставіў кандыдатаў у сямі акругах. Праўда, акруга н-р 25, дзе акурат Беларускі выбарчы камітэт разлічваў на выйгрыш, гэта не толькі Беластоцкае ваяводства, але і Сувальскае, не беларускае. Тым не менш шанцы былі. А тут правал. Не будзе беларускага пасла ў Сойме. Колькасць галасоў, якія атрымалі беларускія кандыдаты ў Сойм — гэта трагедыя. Усяго чатыры з паловай тысячы. 4,5 тысячы галасоў — гэта ў пяць разоў менш, чым 21 тысяча сабраных подпісаў. Дзе тут логіка, а ўсур'ёз — дзе памылка?

На Беласточчыне і Сувальшчыне выйграў Саюз левых дэмакратаў, які ўвёў двух паслоў, а набраў каля 60 тысяч галасоў, з чаго іхні лідэр У. Цімашэвіч — 95%. Двух паслоў увяла таксама Выбарчая каталіцкая акцыя, а іншыя партыі — па адным. Апошні камітэт, які ўвёў свайго кандыдата ў Сойм, — гэта Выбарчы камітэт праваслаўных. На іх галасавала крыху больш за 13 тысяч, значыць, крышку больш, як сабралі яны подпісаў. Гэтым пасам будзе Яўген Чыквін — праваслаўны лідэр, пасол ужо трэцяга склікання, але цяпер абраны дэмакратычна. Значыць — спасярод трох камітэтаў, якія змагаліся за душу беларускага выбаршчыка, Беларускі выбарчы камітэт аказаўся самым слабым. У маштабе акругі лепшымі ад беларусаў былі: Партыя сяброў піва, Прафсаюз „Салідарнасць", якія таксама не ўвялі сваіх кандыдатаў. Не ўвёў сваіх кандыдатаў і Блок меншасцяў (літоўцы, украінцы, чэхі і славакі) — ні ў 25 акрузе, ні ва ўсёй краіне. На Беласточчыне галасавала больш за 50 працэнтаў выбаршчыкаў — гэта значыць больш, чым у маштабе краіны. А цяпер прыйшоў час задумацца, дзе памылка.

Напэўна можна абвінавачваць канкурэнтаў. У выбарчай кампаніі канкурэнты карысталіся часта хлуснёй і паклёпамі, нахабнасцю. Акурат Беларускі выбарчы камітэт вёў найбольш культурную кампанію. Камітэт праваслаўных карыстаўся Царквой і яе структурай. Цімашэвіч гуляў на пачуццях беларусаў: то пакажацца перад тэлебачаннем у царкве, то наведае агляд беларускай песні, а прытым дае шмат абяцанак, спачувае нядолі бяднейшых, а ў нашым рэгіёне — гэта ў значнай ступені беларусы. І заўсёды выступаў супраць польскага нацыяналізму і нахабнасці Каталіцкай царквы. Ну, але гэта ёсць выбары, і здаецца, прыступаюць да іх тыя, якія хочуць іх выйграць, а не от так сабе, паказацца, маўляў, глядзіце, якія моцныя беларусы, у сямі акругах выставілі

( Працяг на стар. 5 )

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



**Вёска Зьуч.**
*Мал. У. Петрука*

**********************************************************

# ПРЫГРАНІЧНЫЯ СУСТРЭЧЫ

У гэтым годзе гміна Нараўка наладзіла блізкія кантакты з гарадскім пасёлкам Свіслач на Беларусі. Летам, у чэрвені, школу ў Нараўцы наведалі дзеці з музычнай школы ў Свіслачы. Хор гэтай школы пад кіраўніцтвам Эдуарда Тарноўскага даў цудоўны канцэрт у Нараўскай і Ляўкоўскай школах.

14 ліпеня свіслаччане запрасілі жыхароў Нараўкі на Свята Вызвалення. У гэты летні прыгожы дзень многія нараўчане сустрэліся са сваякамі, якія жывуць недалёка ад Свіслачы. У сваю чаргу жыхары Свіслачы наведалі Нараўку ў пачатку кастрычніка.

Дачакаліся экскурсіі і школьнікі з Нараўкі. 18 кастрычніка адбылася школьная экскурсія ў Свіслач пад кіраўніцтвам дырэктара школы Яўгена Валкавыцкага. У раённым Доме культуры з канцэртам дружбы выступіў школьны калектыў, якім кіруе настаўніца Аліна Саевіч. Вучні таксама пазнаёміліся з гістарычнымі помнікамі Свіслачы, наведалі Краязнаўчы музей, а галоўнае, сустрэліся з сябрамі. Школьнікі са Свіслачы цёпла прынялі сваіх равеснікаў з Нараўкі. І дзеці, і апекуны-настаўнікі былі задаволены падарожжам.

**М. ВАРАНЕЦКІ**

## У КЛЮКОВІЧАХ І СЯМІХОЧАХ

**( Працяг са стар. 1 )**

моцна не змяніліся, не выклікае ягоная асоба цяпер пагарды і абурэння, як не выклікала свайго часу асаблівага абажання і захаплення. На сцяне школьнага будынка вісіць пліта (вісела яна там не адзін год) з інфармацыяй, што гэта школа імя Яна Бурыча. Людзям было ўсё роўна, Юры то Юры, Ян дык Ян. Пэўна і цяпер абыякава аднясуцца да новага афіцыяльнага героя.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

**********************************************************

## СВЯТЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

### СВЯТЫ СІМЯОН, ЕПІСКАП ПОЛАЦКІ

У Полацкай зямлі праслявіліся святасцю свайго жыцця тры полацкія епіскапы: Міна (памёр каля 1116 года), Дзіянісій (памёр каля 1182 года) і Сімяон. Святы Сімяон нарадзіўся на пачатку XIII стагоддзя. У маладосці ўступіў ён у манастыр. Ягоныя веды, адданасць веры дазволілі Сімяону стаць полацкім епіскапам. Епіскапскую кафедру свяціцель атрымаў у часы ўладання Полацкам князя Канстанціна (1264-1266). У 1266 годзе Полацкую зямлю заваяваў князь Даўмонт, а пасля яго ўладу перанялі: Герзен, Трайдэн і Ізяслаў. Перыяд княжання ў Полацку паганскага князя Трайдэна (1270-1282) быў некарысным для праваслаўных жыхароў горада. Уладыка Сімяон быў вымушаны выехаць з Полацка і спыніцца ў Тверы. Прыехаўшы ў Твер, Сімяон стаў першым яго епіскапам (1271-1289). У стварэнні Тверскай епархіі выдатную дапамогу даў князь Яраслаў Яраслававіч — брат святога Аляксандра Неўскага. Аднак, ужо ў наступным годзе памірае Тверскі князь. Ягоны сын Міхаіл стаў выхаванкам уладыкі Сімяона.

Свяціцель Сімяон адбудоўвае ў Тверы згарэлыя ў час вайны цэркве, дапамагае бедным, умацоўвае хрысціянства сярод вернікаў сваёй



епархіі. Ягоны маральны аўтарытэт і царкоўна-грамадская пазіцыя была шанавана другімі хрысціянскімі князямі, з якімі Тверскі ўладыка меў непасрэдныя кантакты. Асаблівую зацікаўленасць ён праяўляў да Полацка. Захаваўся невялікі літаратурны твор з паловы XIV стагоддзя пад назвай: „Семена епіскапа тверскаго наказание." Твор, напісаны ў форме размовы князя з епіскапам, мае багаслоўскі характар, тым не менш ён — адзін з дакументаў, у якіх праяўляюцца погляды свяціцеля Сімяона на сацыяльныя і рэлігійныя парадкі яго часу, у прыватнасці свавольства цівуноў, якія, атрымаўшы ўладу ў валасці, выкарыстоўвалі людзей для здабыцця князю прыбытку. Гэтыя напамінанні Тверскі ўладыка кіруе да Канстанціна Бязрукага, які зноў прыйшоў да ўлады ў Полацку пасля смерці Ізяслава. Змест твора вельмі важны і таму прывяду яго поўнасцю ў арыгінале:

„Константин князь Полоцкий, нарицаемый Безрукий у собе в пиру, хотя укорити тивуне своего о чем, рече попу пред всеми: владыко, где быти тивуну на оном свете? Семен поп отвечае: где и князю. Князь же не улюбив того, молвит попу: тивун неправду судит, мзду емлет, люди продает, мучит, лихое всё деет, а аз что даю? И рече поп: аще будет князь добр, Богобоин, жалует людей, правду любит, избирает тивуна или коего волостеля мужи добре и богобойне, страха божия помне, разумна, праведна, по закону Божию всё творяща и суд ведуща — и князь в рай и тивун в рай. Будет ли князь без Божия страха христиан не жалует, сирот не милует и вдвовицам не печалуется, поставляет тивуна или коего

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**6 сакавіка 1988 г.**

У студзеньскім „Powściągliwość i Praca" — рэцэнзія на „Białoruś, Białoruś" аўтарытэтнага А. Дравіча („Zatrzymajmy się na Białorusi").

У апошніх мінулагодніх „Faktach" — таксама — Пятра Целеша, бы́дгаскага літаратара, які лічыць сябе трохі беларусам (vide: творчасць ягоная).

„Gazeta Współczesna" ад 24 лютага — ні слова пра тое, што было галоўнае ў маім выступленні на Канвэнце 18-га („Szansa jest w nas"). У сэнсе тактычным можа быць і добра, што падкрэслены ў маім выступленні моманты, якія не будуць абураць польскі натоўп... І Сідорскі выходзіць цалкам па-людску...

Выйшлі сёмыя „Сустрэчы", яшчэ болей памізарнелыя як быццам (старонка „Прысутнасць" у „Ніве" высмоктвае?). З культурай мовы трохі лепш.

У тыдн. „Polityka" — 27 лютага — падборка лістоў „Mniejszości są wśród nas". Івацік — гэта Давідзюк (у яго падвойнае прозвішча).

**8 сакавіка 1988 г.**

6-га ў нашай кватэры: Туронак, Тарасэвіч, Марыля Базылюк (...). Тарасэвіч намаўляе — ад імя беларусаў у ЗША — напісаць падручны том гісторыі Беларусі. Даўно згадваў ён пра гэта, але цяпер заспяшаў, бо ізноў сабраўся ў Нью-Йорк (і каб не з пустымі рукамі). Ну, будзем пісаць (і Мірановічы далучацца). — Пад вечар зайшлі бел. студэнты з Альштына: трэба ехаць да іх на сустрэчу пра Беларусь (неахвота, стома, але мусова).

Учора — ад Карпа „Krzyk rozpaczy" з новай „Więzi": польскія прэтэнзіі да „Białorusi, Białorusi", надта сэрчыкаватыя.

Напісаў я Карпу: беларуская нацыя загубленая, этнаграфічная Расія ўжо ў Гродне і ў Брэсце, вам трэба гаварыць не з беларускімі магіканамі, але з расіянамі ...

Практычная карысць для мяне ад г. публікацыі, відаць, будзе такая, што перастануць цягаць на сустрэчы і сыпаць пісьмамі. Не было як адмаўляцца: абараняй беларускія рацыі і г.д. Нарэшце буду мець больш спакою, з'явяцца сілы, каб заняцца галоўным, тым, чаго ніхто за мяне не зробіць.

**11 сакавіка 1988 г.**

Тыдзень які назад студэнты ўтварылі Беларускі Народны Універсітэт (выклады штопятніцы ад 18-ай гадз.). У будынку ГП БГКТ. Сёння мой першы выклад пра этнагенез беларусаў і Полацкую Зямлю. Добра ўдаўся, выклікаў зацікаўленне (слухала к. 20 асобаў).

Ліст ад Варашыльскага. Здзіўлены „Krzykiem rozpaczy" у „Więzi": „... raptem taka złość". Гэта „razi mnie bardzo", і будзе рэагаваць у адным са сваіх пастаянных у г. часопісе фельетонаў.

Думаю, што не толькі ён ... Словам: jeszcze Polska nie zginęła, ёсць у ёй людзі, якія абароняць мяне (бо самому адмахвацца — гэта зусім што іншае).

Скандал з тысячагоддзем хрышчэння Русі (кажа А. Міранович). Прымас Польшчы Глемп, — кажуць, — дэманстратыўна парваў вядомае пасланне мітрапаліта Дарашкевіча ... Сярод праваслаўных іерархаў у ПНР толькі ўладыка Сава рашуча адкідае ідэі уніяцтва? (...)

Туронак даслаў ксераадбітак БССРаўскага самиздата „Бурачок" (з Гродна прывезлі?). Па-праўдзе, дык гэта інструкцыя, як арганізоўваць ды ахоўваць групы беларускай актыўнасці... Ёсць і абарона мяне ад бажкоўшчыны.

**14 сакавіка 1988 г.**

Шумам шуміць беларуская тэматыка на старонках польскіх часопісаў і газет! Вось даслалі (сёння) яшчэ адну выразку: „Gazeta Pomorska" ад 4-га, „O kresach bez polskich sentymentów", маё інтэрв'ю, якое даў я (у гатэлі), будучы ў Быдгашчы. Самае вялікае з дагэтуляшніх!

Трэба напісаць пра гэты шум у „Ніву", падказвае Ваўк.

*(Працяг будзе)*

Т л у м а ч э н н і:

*— Тарасэвіч — Лёнік Тарасэвіч, вядомы ў свеце беларускі мастак, адзін з вядучых арганізатараў нашага студэнцкага руху, а таксама Беларускага дэмакратычнага аб'яднання;*

*— Мірановічы — Антон і Генік, родныя браты, гісторыкі па адукацыі, дзеячы беларускага нацыянальнага руху ў Беластоцкім краі, якія адыгралі вялікую ролю ў стварэнні Беларускага дэмакратычнага аб'яднання;*

*— Карпа — Марк Карп, публіцыст лева-каталіцкага накірунку, папулярызатар ідэі садружнасці Польшчы і Беларусі, сааўтар часопіса „Res Publica";*

*— Варашыльскага — Віктар Варашыльскі, выдатны польскі паэт, перакладчык беларускай літаратуры;*

*— Ваўк. — Юры Ваўкавыцкі, тадышні галоўны рэдактар „Нівы";*

*— сэрчыкаватыя — форма ўтвораная ад прозвішча Сэрчыка, беластоцкага прафесара, які заўсёды крытыкуе кагосьці так, каб уладам спадабацца;*

*— бажкоўшчыны — ад прозвішча Алеся Бажко, мінскага літаратара, які ганебна, па-энкавэдоўску, атакаваў у друку праявы беларускай самастойнасці.*

***********************************************************************

волостеля — человека зла, Бога не боящася и закона Божия не ведуще, и суда не разумеюще, только того деля, абы князю товара добывал, а людие не щадил, аки бешена человека пустил на люди, дав ему меч, тако и князь, дав волость лиху человеку избити люди, — князь во ад и тивун с ним во ад".

„Семена епіскапа тверскаго наказание" было папулярнае ў наступных стагоддзях і захавалася ў шматлікіх копіях.

Пад канец свайго жыцця святы Сімяон пачаў у Тверы будову Праабражэнскага сабора. Прадчуваючы смерць, устанавіў ён у незакончаным саборы прастол, перад якім вёў багаслужбу. Памёр ён у 1289 годзе. Яго выхаванак, Тверскі князь Міхаіл Яраслававіч закончыў пабудову царквы. У 1290 годзе мошчы Уладыкі Сімяона былі перанесены ў Праабражэнскую царкву. Праваслаўная царква, кананізуючы Полацкага і Тверскага епіскапа, устанавіла дзень яго памяці на 3 лютага.

АНТОСЬ МІРАНОВІЧ

## КАНФЕРЭНЦЫЯ ПА РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГІСТОРЫІ

З 22 па 25 кастрычніка г.г., упершыню ў Рэспубліцы Беларусь, у Гародні адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя па рэгіянальнай гісторыі Усходняй Еўропы на тэму: „Культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII — пач. XIX стагоддзяў". Акрамя беларускіх навукоўцаў у канферэнцыі ўзялі ўдзел вучоныя з Украіны, Расеі, Літвы, Казахстана, Польшчы, Вялікабрытаніі і Ізраіля.

У час канферэнцыі, у зале абласнога тэатра, дзе яна адбывалася, гродзенскае абласное аддзяленне беларускага фонду культуры наладзіла продаж „Нашага радаводу", дзе былі змешчаны ўсе даклады выступаўшых на канферэнцыі.

Пры падвядзенні вынікаў адзначыўся плён праведзенай працы. Аднак, пажадана было б у будучым, як выказваліся ўдзельнікі форуму, звузіць спектр разглядаемых пытанняў, бо амаль кожнае з іх можа быць тэмай паўнацэннай канферэнцыі.

Міхал Карневіч,
Гародня

## СТО МІЛЬЯРДАЎ ЗЛОТЫХ НА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Такую менавіта суму грошай у бюджэце ў наступным годзе хоча прызначыць урад на фінансаванне супрацоўніцтва з эміграцыяй і палякамі ў замежжы.

Грошы будуць выкарыстаны дзеля стварэння спецыяльнага фонду. Урад спадзяецца на яго падтрымку палякамі ў краіне і за мяжой.

Урадавая праграма, прынятая Радай Міністраў у аўторак (5 лістапада — рэд.), упершыню ў пасляваенай гісторыі Польшчы, фармулюе мэты і прыярытэты ўрадавай палітыкі ў адносінах да эміграцыі: утрымоўванне кантактаў з дыяспарай, падтрымка польскай культуры і мове (на Усходзе таксама паляпшэнне ўмоў жыцця) і заахвочванне палякаў у замежжы ўключыцца ў адбудову краіны.

Палякам у Савецкім Саюзе будуць дасылацца падручнікі для навучання польскай мове, частка фондаў пойдзе на плату настаўнікам і на дапамогу ў культурнай дзейнасці.

„Gazeta Wyborcza", nr 259
z 6 listopada 1991 r.

## ПАСЛЯВЫБАРЧЫЯ РОЗДУМЫ

( Працяг са стар. 4 )

сваіх кандыдатаў.

Старшыня Беларускага выбарчага камітэта Пятро Юшчук не зразумеў аднаго: ці за ўсялякую цану мусім увесці свайго кандыдата, нават за цану змены назвы камітэта, ці захаваць беларускі твар, але прайграць? Юшчук, Стахвюк і іншыя беларускія радыкалы таго накірунку абралі другі варыянт. Другая справа, што ў Беларускім выбарчым камітэце не было вонкавага лідэра, чалавека-кандыдата, за якім пайшлі б выбаршчыкі. І яшчэ адна памылка, якую зрабіў камітэт — нагінаў выбаршчыкаў да сваіх нацыянальных ідэй, а тутака трэба наадварот — свае ідэі нагнуць да менталітэту насельніцтва, значыць выбаршчыкаў. Прычын, ужо меншых, можна яшчэ знайсці і дзесяткі. Мабыць, гэтыя выбары і іх вынік вернуць з неба на зямлю беларускі палітычны рух на Беласточчыне. Хапае заяў і дэклярацый, хапае пратэстаў, трэба брацца за сапраўдную працу. І яшчэ адно. Каб захаваць еднасць у беларускім палітычным руху, трэба, каб лідэры яго змяніліся. Гэтым цяперашнім лідэрам было немагчыма дагаварыцца з праваслаўнымі. Дык трэба паставіць такіх лідэраў, каб гэта было магчымае.

Фрагмент карэспандэнцыі
**Юркі Ляшчынскага**
для радыё „Свабода" (3.XI.1991 г.)

### ПАГАВОРКА ТАК І СЯК

У маёй беднай вёсцы, калі хтосьці кагосьці падвядзе пад дурнога хату, людзі смяюцца і раяць: „Людзей слухай, але і свой розум май."

Адносна нашых кандыдатаў у Сейм і Сенат, я б грабавецкую пагаворку адвярнуў: „Свой розум май, але й людзей слухай".

Пасля чарговых выбараў мы ад нашых кандыдатаў у паслы чуемо: „Не ўдалося, але нічога, затое будзем ведаць, як быць у будучыні!" Гэта вымахванне кулакамі пасля бою, што выклікае адно смех.

А як жа можа быць у будучыні, калі нашымі характэрнымі рысамі, якімі мы „ганарымся" ўсюды, з'яўляюцца нянавісць (так, так, беларуса да беларуса) ды грызня.

На мой сціплы погляд, яшчэ ніколі ў беларусаў не было такой магчымасці мець сваіх прадстаўнікоў у парламенце, як 27 кастрычніка 1991 года. Нам проста спрыяла сітуацыя — палітычная і гаспадарчая! Але замнога нашых лідэраў захацела нараз стаць дэпутатамі і зарабляць пасольскія дыеты.

Я знаю, што мая рада пойдзе туды, куды пайшла мядзведзева, калі ён раіў малпе паглядзець на сябе, але ўсё- такі сваё скажу: будзьма больш зычлівымі свайму народу ды шукайма кааліцыяў з тымі, хто нас разумее, хоча і любіць, а пабачыце, што будзе нам лепш і весялей.

**Васіль Петручук**

( Працяг на стар. 6 )

## ПАСЛЯВЫБАРЧЫЯ РОЗДУМЫ

( Працяг са стар. 5 )

### ЦІ ПАТРЭБНЫ ПАДЗЕЛЫ?

Сям'я, у якой лад, парадак і згода, заўжды жыве ў дастатку і заможнасці і дае добры прыклад іншым. Але калі наадварот? Тады гару ў штодзённым жыцці бяруць эмоцыі і дабра нельга ўжо спадзявацца.

На гэтым прыкладзе хачу выявіць маю думку наконт нядаўніх выбараў кандыдатаў у Сейм і Сенат з беларускага і праваслаўнага спіскаў. Не скажу, што беларусы і праваслаўныя беларусы жывуць не ў згодзе, але, гледзячы на іх падзел, інакш думаць нельга. Гэта праўда, што моднымі зараз зрабіліся рознага роду партыі, гурткі і таму падобнае, але, па-мойму, гэта не вырашэнне праблемаў, якіх у нас у даны момант хоць адбаўляй.

Як адны, так і другія, гэта сыны аднаго і таго самага пня. Карыстаемся гэтымі самымі традыцыямі, звычаямі, культурай. Розніца між намі менавіта ў тым, што адны веруючыя, другія менш, а трэція атэісты. Вось у тым і заключаецца як жа шкодны падзел нашага грамадства. А што яно так не павінна быць, доўга доказаў шукаць не трэба. Хопіць паслухаць дэбаты ў Сейме.

У новым Сейме груповак будзе значна больш. Хацелася б верыць, што да рукапашных схватак у час сеймавых пасяджэнняў не дойдзе. Палітычная культура ў нас, на жаль, далёкая ад ідэалу.

**В. СЕМЯНЮК**

### КУЛЬТУРА ПАГРАНІЧЧА

Ваяводскі цэнтр анімацыі культуры ў Беластоку ўжо другі раз арганізуе мерапрыемства пад назвай „Сустрэчы з культурай пагранічча". На гэты раз праводзіцца будзе яно пад лозунгам „Польшча і Украіна на сутыкненні культур і народаў" (папярэдняя сустрэча датычылася літоўскай культуры, наступная — будзе датычыць беларускай). Апрача ВЦАК, арганізатарамі сустрэч з'уляюцца Падляшскі аддзел Аб'яднання украінцаў у Польшчы і рэдакцыя „Кур'ера Падляшскага". У запрашэннях просяць яны звярнуць асаблівую ўвагу на польска-украінскія пытанні, гісторыяй і культурай учыненыя супольнымі: „Не хацелі б мы згубіць з поля зроку такія паняцці, як „чалавек пагранічча" і „культура пагранічча". Ці можна вылучыць такія культурныя якасці? Якія грамадскія і псіхалагічныя вынікі дае „знаходжанне на абшары ўзаемнага пранікання многіх культур"? На гэтыя і іншыя пытанні хацелі б мы адказаць, калі не непасрэдна, дык пасрэдным чынам, шляхам сустрэчы прадстаўнікоў розных, мяжуючых з сабою нацый, і супольнай дыскусіі. Таму запрасілі мы украінцаў, беларусаў, цыганоў, літоўцаў, яўрэяў і палякаў, прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў у Польшчы і „палоніі". Сярод запрошаных гасцей будуць паэты, журналісты, музыканты і ўсе іншыя, зацікаўленыя тэмай сустрэчы".

II Сустрэчы з культурай пагранічча адбудуцца ў Беластоку ў днях 29 лістапада — 1 снежня 1991 г. За дэталёвымі інфармацыямі можна звяртацца па адрасу: Wojewódzki Ośrodek Animacji Kultury, 15-950 Białystok, ul. Kilińskiego 8, tel. 416-414, 418-724, 418-652.

## ЦІ БУДУЦЬ ЯШЧЭ СПЯВАЦЬ „ВАСІЛЁЧКІ"?

( Працяг са стар. 1 )










*Ці будзем адзначаць чарговыя юбілеі?*

рэпетыцыі, раз нават жулікі ўкралі ў мяне матор, які, праўда, пасля ночы знайшоўся.

*— Што Вам з гэтых звыш дваццаці гадоў найбольш запаміталася?*

— Усяляк бывала, былі моманты задавальнення, але перад усім цяжкая праца. Цяпер ужо можна глянуць спакойна, аб'ектыўна на тое, што было. На пачатку спявалі мы, што крый пане Божа, і рэпертуар быў абы-які, і выкананне слабое. Ну, але ўсе гэтыя гады мы вучыліся, уводзілі новыя элементы, можна сказаць, папраўляліся. Выязджалі мы па-за межы Беласточчыны. У 1972 г. былі на тыднёвым турнэ па Быдгоскім ваяводстве. Як нас там прымалі! Выдалі нават спецыяльную праграму і ўсё віталі „сяброў з Савецкага Саюза", ніяк не маглі паверыць, што мы таксама з Польшчы. Ездзілі мы ў Плоцк, Познань, да ўкраінцаў у Сопат. У 1988 годзе паехалі мы ў Смаргонь і ў Менск — там запісалі пра нас фільм. Гэта і быў якраз апагей развіцця калектыву. На рэпетыцыі прыходзіла 100% харыстаў, адчувалася вялікае заангажаванне, хутка развучвалі новыя песні. Зрэшты, такое ажыўленне заўсёды адчувалася пасля ўвядзення нечага новага, напрыклад, калі мы ўвялі элементы руху на сцэне. А тады якраз я стварыў капелу, якая акампанавала хору. Адразу з'явілася быццам іншае адчуванне песні словам, было нешта новае, цікавае.

Памятаю таксама моманты занепаду. Напрыклад, у 1975 г. хор прыпыніў сваю дзейнасць. Гэта быў час, калі Герэк заявіў пра этнічна аднародную Польшчу — людзі адчувалі неспрыяльную атмасферу. Хор фактычна выратаваў тадышні начальнік Бельскай гміны Л. Парафінюк, і з гэтага моманту ўсё ішло ўгару.

*— Аж да гэтага года. Якія, па-Вашаму, прычыны таго, што хор ужо не спявае?*

— Я лічу такія крызісы нармальнай з'явай у кожным калектыве. Калі дырыжор вядзе нейкі калектыў шмат гадоў, пачынае рабіць гэта стэрэатыпна. Можна з гэтым змагацца, уводзіць нешта новае, але пасля не хапае ўжо канцэпцыі. Паяўляецца агульная змучанасць, няма ахвоты да супольнай працы з двух бакоў. Людзі не прыходзяць на рэпетыцыі — як я з гэтым і не прабаваў змагацца, нічога не атрымалася. Адну песню развучвалі цэлых паўгода. У „Васілёчкі" не прыходзілі маладыя людзі, а гэта заўсёды ўплывае на абніжэнне ўзроўню выканання.

Можа, неяк адолелі б мы часовы крызіс і хор ажыў бы, каб не было на мяне персанальных нападаў з боку некаторых спевакоў, што я, маўляў, натварыў розных „Жучкоў", „Крынічак", „Дзявочых нотак" і, на канец, „Маланку", і недастатковую ўвагу прысвячаю „Васілёчкам", нават разбіваю гэты хор. Гэта ж абсурд. Я не мог дазволіць сабе раскошы працаваць з адным калектывам ці салістам, бо тады наўрад ці можна было б арганізаваць хаця адзін агляд беларускай песні ў Бельску. Заўсёды большасць удзельнікаў гэтых аглядаў складалі выканаўцы, падрыхтаваныя мною.

А „Маланка" ўтварылася з жаночага квартэта, які паўстаў пры Бельскім доме культуры ў мінулым годзе. Да квартэта дайшло некалькі новых асобаў, у тым ліку і з „Васілёчкаў", і так нарадзіўся гэты ансамбль народнай песні. Зусім не таму, каб сапернічаць з „Васілёчкамі", толькі на тое, каб зноў было штосьці новае. Людзям калектыў гэты падабаецца, ды і мне з ім добра працуецца.

*— А ці заспяваюць яшчэ „Васілёчкі"?*

— Не ведаю. Мне пасля сварак, пасля атакаў на маю асобу нават не хочацца да гэтага вяртацца. Я ўжо раней раіў „Васілёчкам", каб пашукалі кагосьці іншага на маё месца. Можа, знойдзецца прафесіянал, які павядзе далей „Васілёчкі". Толькі я баюся, што ён можа зрэзыгнаваць праз месяц-два, калі сустрэнецца з такой самай атмасферай, з адсутнасцю на рэпетыцыях, з неапраўданымі амбіцыямі некаторых харыстаў.

*— Дзякую Вам за размову.*

Гутарыў
**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

### УВАГА, БЕЛАСТАЧЧАНЕ!

**По ініцыятыве Краёвай управы БДА пачаліся ўжо ўрокі беларускай мовы для дзетак ва ўзросце 8-12 гадоў. Заняткі вядуцца ў будынку ГП БГКТ па суботах у гадз. 12-13, пад кірункам Яна Морданя.**

**Для старэйшых груп курсы беларускай мовы будуць арганізаваны, калі збярэцца адпаведная колькасць жадаючых вучыцца.**

**Каб запісацца на ўрокі беларускай мовы хопіць названіць на нумар 435118 (ГП БГКТ, п. Галіна Рамашка, у гадз. 8-15) або 28375 (В.Стахвюк, пасля 15 гадз.)**

## ТОЕСНАСЦЬ ПОЛЯКА

( Працяг са стар. 3)

дзень раніцай. Але, відаць, праз гэты час Марак дамовіўся з ім на супольны выезд у Нямеччыну, хутка сабраў пару мільёнаў злотых, бо таксама выбіраўся ў Варшаву. Паехаў з імі і Юрка, але ён, бадай, хацеў пабачыць толькі той джып з шырокімі коламі, на якім хлопцы выбіраліся ў Нямеччыну, а пра які так багата і вобразна распавядаў Поляк.

На наступны дзень вечарам пайшла я да Юркі, каб даведацца, як было ў Варшаве. Заходжу і бачу, што Марак таксама вярнуўся. Што сталася, пытаю. Заўтра скажу, кажа Юрка, сягоння і так не наверыш. Я стала яго мучыць. У канцы расказаў. Заехалі ў Варшаву. Эва пакінула іх на вакзале і падалася дахаты. Яны ўтраіх зайшлі ў Дамы „Цэнтрум" — Поляк хацеў названіць дахаты, ды і грошы можна было там пры нагодзе памяняць. Я ўжо не памятаю дэталёва таго, што там сталася, але прыблізна магло гэта выглядаць так: Поляк узяў грошы і пайшоў у касу памяняць іх на долары. У „Цэнтрум" заўсёды шмат народу, знікнуць там няцяжка. Да таго ж, праз гэты тыдзень у Беластоку ўсе мы так зжыліся — ніхто і не думаў, каб яго ў нечым падазраваць. Хлопцы доўга яшчэ чакалі, спадзеючыся, што ўсё-такі наявіцца. Пазней паехалі да яго. А як жа ж, яшчэ ў Беластоку ўсім нам даў свой адрас і тэлефон. Адшукалі блёк і кватэру. Адчыніў ім дзядуля, паціснуў плячыма, ніхто такі тут не жыве...

Цяпер разумееш, чаму мы ў свой час так прасілі ў цябе здымкі з кавярні...

Калі з перспектывы часу разглядаю ўсю гісторыю, дык заўважаю некаторыя пазбаўленыя сэнсу дэталі. Прыкладна, усе мы найшлі на адкрыццё кавярні ў БГКТ — Поляк казаў, што яму трэба раней вярнуцца. Аднак, ужо на пачатку стаў вельмі нервавацца — чаму так доўга няма брата. Прычына была зусім іншая — у БГКТ ён убачыў чалавека з фотаапаратам.

— *Ці гэта яны?*

— Так.

*(Працяг, праўдападобна, будзе)*

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**

# НА БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІМ ДУХОЎНЫМ СУМЕЖЖЫ

Барбара Рушчыц, дачка слыннага жывапісца Фердынанда Рушчыца, гасцявала ў Беларусі з 4 па 11 мая. Яна прыехала па запрашэнню суполкі мастакоў „Пагоня" Саюза мастакоў Беларусі і рэдакцыі часопіса „Мастацтва Беларусі". Больш як 45 гадоў не была яна на роднай зямлі — у Багданаве, на могілках, дзе пахаваны бацькі. Пані Барбара ўвесь пасляваенны час жыве ў Польшчы, яна археолаг, знаўца раннехрысціянскай культуры, шмат гадоў вядзе раскопкі ў краінах Блізкага Усходу.

У Беларусі дачка Фердынанда Рушчыца мела самы сардэчны прыём. Вядома ж, яна наведала Багданава — колішні бацькоўскі маёнтак, аб'ехала



*У Беларусі дачка Фердынанда Рушчыца мела самы сардэчны прыём.*

яго ваколіцы, што сталі „прататыпамі" і „натхняльнікамі", навек засталіся жыць у цудоўных пейзажах славутага майстра. Барбара, наймалодшая з дзяцей Фердынанда Рушчыца, засвоіла тут у маленстве беларускую мову. І праз 45 гадоў яна лёгка разумела субяседніка, які гаварыў з ёю па-беларуску. І сама прыстойна вяла дыялог „па-просту", як яна казала, дакладней — на дыялекце паўночна-заходняга рэгіёна Беларусі.

Поўны ўспамінаў дзяцінства быў таксама дзень, праведзены ў Вільні. Па-ранейшаму стаіць дом, у якім жыла сям'я прафесара Рушчыца. Цяпер там майстэрні мастакоў. Збярогся і бабулін дом, дзе жыла Бася пасля смерці бацькоў. І той самы турэцкі барабан стаіць у касцёле Пятра і Паўла, у той самай нішы — скульптура Смерці з касой, якой так баялася некалі дзяўчынка. Спадарожнік Барбары Рушчыц у вандроўцы па Вільні Лявон Луцкевіч падтрымаў нават яе ўспамін пра рэчку Качаргу...

Госця наведала таксама Заслаўе, Мір, Нясвіж, агледзела музей народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах, была прынята кіраўніцтвам Саюза мастакоў Беларусі і мела грунтоўную гаворку ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР. Будзем спадзявацца, што гэтая сустрэча паспрыяе наладжванню плённых сувязей паміж нашым музеем і Нацыянальным музеем у Варшаве, што ўдасца наладзіць выстаўку работ Фердынанда Рушчыца ў Мінску. Як вядома, асноўныя зборы яго твораў знаходзяцца ў Варшаве, Кракаве і Львове. ДММ БССР мае толькі адно палатно — „Ля касцёла". 10 мая суполка „Пагоня" правяла ў Доме літаратара вечарыну ў гонар Фердынанда Рушчыца. Зразумела, ганаровай госцяй тут была пані Барбара. Мастакі, мастацтвазнаўцы разважалі пра творчасць слыннага майстра, адзначалі ў ёй беларускія матывы, з удзячнасцю згадвалі яго бацькоўскае стаўленне да талентаў з тутэйшага люду. Гучалі народныя песні ў выкананні ансамбля „Ліцьвіны" (кіраўнік У. Бэрбераў). Студэнты БДТМІ падарылі госці акварэльны партрэт Фердынанда Рушчыца, на якім паставілі свае подпісы ўсе ўдзельнікі вечарыны.

Барбара Рушчыц адказала на пытанні прысутных. Яе кранула павага беларускіх мастакоў да творчасці бацькі і ўвага да яе асабіста. І мне падалося, што яна цалкам згодна з тэзісам, выказаным мною ў яе прысутнасці ў радыёінтэрв'ю ў Вільні: творчасць Фердынанда Рушчыца знаходзіцца на беларуска-польскім духоўным сумежжы, гэта цэласны, самабытны скарб.

На сустрэчы ў Доме літаратара прысутнічаў генеральны консул РП у Мінску Тадэвуш Мысьлік з жонкаю.

**В. ТРЫГУБОВІЧ**

**(„Мастацтва Беларусі" н-р8/1991)**

******************************************************************************************

## ГАРОДЗЕНСКІ ГУРТОК БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Нядаўна ў 42 нумары „Нівы" ад г.г. я прыпомніў шаноўным чытачам пра існаванне беларускага арганізаванага руху ў Варшаве, пачынаючы ўжо ад 1915 г., дзякуючы захаванай да нашых дзён у І нумары штомесячнага культурна-грамадскага і літаратурнага віленскага часопіса „Беларускі летапіс" (1933-1939) ад 1938 г. публікацыі на гэту тэму М. Орсы. Беларусы, аднак, арганізаваліся ў той час не толькі ў Варшаве. Ужо раней у 1889-93 гадах у Пецярбургу існаваў „Гурток моладзі польска-літоўска-беларускай і маларускай" (г.зн. украінскай, — Ю.Т.), які ўзнік як зямляцкая арганізацыя выхадцаў з Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны і ў якім у асноўным гуртавалася студэнцкая моладзь тадышняй расійскай сталіцы. Яго старшынямі ў розны час былі К. Дабкевіч, І. Вілейшыс, М. Дамашэвіч, а ў 1893 г. — вядомы беларускі паэт Адам Гурыновіч. Спачатку меў ён асветніцкі характар і толькі пасля эвалюцыянаваў у палітычным кірунку, за што быў разгромлены тайнай паліцыяй.

Для развіцця беларускага нацыянальнага руху рашаючае, аднак, значэнне мелі гурткі, якія існавалі на этнаграфічных землях Беларусі, а пасля — у міжваенны перыяд — былой Заходняй Беларусі. Як вядома, з даўніх часоў двума культурна-палітычнымі цэнтрамі гэтых зямель былі Вільня і Гародня, якая яшчэ пры Вітаўце стала другой сталіцай Вялікага княства Літоўскага. У Вільні ўжо ў 1850-60-я гады вакол газеты „Виленский вестник" і яе рэдактара Адама Кіркора ўтварыўся і дзейнічаў польска-беларуска-літоўскі літаратурны гурток, у які ўваходзілі У. Сыракомля, В. Каратынскі, М. Акялайціс, А. Адынец, І. Ходзька, кампазітар С. Манюшка ды іншыя, сувязі жа падтрымлівалі — А. Вярыга-Дарэўскі і В. Дунін-Марцінкевіч. Адыграў ён значную ролю ў актывізацыі беларускай нацыянальнай і палітычнай думкі.

У Гародні — як другім асяродку былога Вялікага княства Літоўскага, беларускі арганізаваны рух узнік намнога пазней, а красамоўным праяўленнем яго існавання стала дзейнасць з верасня 1909 да вясны 1914 г. Гародзенскага гуртка беларускай моладзі.

Члены гэтага гуртка, якім кіраваў Ф. Грынкевіч, са студзеня 1912 г. А. Зянюк, а з восені 1913 г. К. Колышка, у асноўным вучнёўская моладзь мясцовых школ і гімназій, вялі вельмі ажыўленую культурную дзейнасць. Яна падтрымлівала сувязь не толькі з „Нашай нівай", суполкай „Загляне сонца і ў наша аконца", беларускай кнігарняй у Вільні ці беларускім студэнцкім гуртком у Пецярбургу, але наладжвала вечарыны з дакладамі на беларусазнаўчыя тэмы, абмяркоўвала новыя творы беларускіх пісьменнікаў, ставіла спектаклі па п'есах М. Крапіўніцкага, К. Каганца, Далецкіх і іншых, вяла навучанне беларускай мове. Уласнымі сіламі стварыла свой аркестр, хор, праводзіла культурна-асветную працу з дзецьмі, а ў 1913 г. на шапірографе выдала альманах-аднадзёнку „Колас беларускай нівы", у якую ўвайшлі літаратурныя творы Л. Сівіцкай (Зоські Верас), Я. Лявіцкага, М. Бобрык, А. Зенюка, Ф. Лабенца.

Дзейнасць гэтага гуртка, безумоўна, мела нейкі, прынамсі ідэйны ўплыў на заснаванне ў 1919 г. (існаваў да 1921 г.) Гародзенскага драматычнага гуртка Грамады беларускай моладзі, які ўзначальвала Паўліна Мядзёлка (арыштаваная ў 1921 г. разам з іншымі актыўнымі членамі польскімі ўладамі). А гэта пашырала яе і на сённяшнюю нашу Беласточчыну (актыўная дзейнасць крынскага драматычнага гуртка, які з 1919 г. ставіў, між іншым, „Раскіданае гняздо" Я. Купалы, „Апошняе спатканне" У. Галубка, „Пашыліся ў дурні" М. Крапіўніцкага, „Збянтэжаны Саўка" Л. Родзевіча).

Грамадская культурна-асветная дзейнасць Гародзенскага гуртка беларускай моладзі цікавая яшчэ і

( Працяг на стар. 8 )

# ГАРОДЗЕНСКІ ГУРТОК БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

**( Працяг са стар. 7 )**

тым, што прымалі ў ёй удзел выхадцы з сённяшняй Дуброўшчыны ці Сакольшчыны, між іншым, сярод іх была ветэранка беларускага адраджэнскага і заходнебеларускага руху і беларуская пісьменніца Зоська Верас (сапр. Людвіка Сівіцкая, па мужу Войцік).

Друкаваныя намі сёння ўспаміны пра гэты гурток былі напісаны невядомым аўтарам, які скрыўся пад псеўданімам Ян з-пад Ласосны, дагэтуль нерасшыфраваным, і былі змешчаны ў І (7) нумары беларускага эміграцыйнага грамадска-палітычнага і літаратурнага часопіса „Крывіч" (1923-1927) ад студзеня-сакавіка 1924 г. (што выдаваўся ў сталіцы тадышняй Літвы Коўні). Ёсць у іх, прадыктаваныя часам, пачынаючы ўжо з загалоўка, пэўныя недакладнасці, тым не менш даюць яны поруч са змешчанымі ў „Студэнскай думцы" ад 1925 г. больш дакладнымі ўспамінамі на гэтую тэму Зоські Верас, даволі цікавае ўяўленне пра патрыятычную дзейнасць беларускай школьнай моладзі ў Гародні ў гэты час. Таму, спадзяюся, сустрэнуцца яны з неменшым зацікаўленнем.

**Юры Трачук**

### ГОРАДЗЕНСКІ БЕЛАРУСКІ ГУРТОК 1913 Г. (Успаміны)

У 1913 годзе ў Гародні (як вядома з майго ўступнага слова, фактычна ў верасні 1909 г., — Ю.Т.) група вучняў сярэдніх школ залажыла „Беларускі гурток", які ставіў сабе мэтай самаасвету і самаўсведамленне. Сабраліся ў гэтым гуртку выключна дзеці беларускіх сялян, каталікі, якім чужа было ў падобных польскіх вучнёўскіх арганізацыях, як роўна і падобных праваслаўных, у якіх, у тыя часы, панаваў дух самадзержавія і „общерускасці". І нічога дзіўнага, бо ў польскіх арганізацыях гуртаваліся дзеці паноў і падпанкаў, бацькі і акружэнне якіх жыло жалямі ўтрачанага панавання над беларусамі, у расійскіх жа — дзеці расійскага чыноўніцтва і праваслаўнага духавенства, бацькі і акружэнне якіх трымалі ў той час у сваіх руках уладу над беларускім народам.

Першыя спасобіліся ў сваіх імкненнях быць ізноў панамі на Беларусі, другія — утрымаць панаванне. А па істоце сваей абедзве групоўкі былі роўна варожы беларускаму адраджэнню.

Фактычна ж „польскасць" і „рускасць" адных і другіх была чыста фіктыўная, бо і першы і другі абоз складаўся з тых жа апалячаных і абмаскаленых беларусаў, складаўся з самага благога гатунку нацыянальных рэнегатаў, выракшыхся свайго народу.

На тыя часы адзіным чалавекам у Гародні, які адважваўся часам гаварыць некалькі слоў па-беларуску, быў ксёндз Грынкевіч, гродзенчук, сын селяніна. Гэтых некалькі нясмелых слоў кс. Грынкевіча былі магічнай прыцягаючай сілай для школьнай моладзі, тым больш, што яна мела з ім стычнасць як з капэлянам. Бяз вялікага высілку са стараны кс. Грынкевіча, каля яго ўтварыўся „Беларускі гурток", у аснову якога паложана была веравызнаўчая азнака. Гэта адпавядала характару самога кіраўніка гуртка, які вызначаўся рэлігійным фанатызмам.

Умяшанне ў беларускае адраджэнне на гародзенскім грунце ксяндза і прыданне яму тут канфесійнай афарбоўкі, адразу ўмацавала за Беларускім гуртком у вачах моладзі праваслаўнай перакананне, што рух гэты выходзіць з польска-каталіцкіх крыніц, а гэта ў свой чарод паставіла таму пашырэння яго на моладзь зрусыфікаваную. Зрэшты, трэба прызнаць, што ў гэтым была доля праўды. Кіраўнік гародзенскага „Беларускага гуртка" кс. Грынкевіч не належаў да беларускіх адраджэнцаў, якія бачылі ў беларускім народзе самамэту, — ён выхаваны быў сам на баламутных ідэях польскага пасланніцтва на беларускіх землях і беларускае адраджэнне трактаваў як правінцыяльную польскую адмену. Стануўшы на шляху беларускага адраджэння ён сваім прыроджаным фанатызмам, парываючы за сабой моладзь, адначасна ўходзіў у лабірынт супярэчнасцяў з самім сабой. Згэтуль ва ўсёй яго рабоце з гародзенскай моладдзю атрымлівалася крывая, ламаная лінія, бо збуджанае нацыянальнае пачуццё ў моладзі выходзіла часта з рамак беларускай парафіяльшчыны іх кіраўніка. Заяўляючы сябе беларусам, кс. Грынкевіч не меў у сваёй душы беларускай ідэалогіі. Увесь яго светагляд, культурны і палітычны, тапіўся ў рамках польшчыны, у якой бабыльскі куточак адводзіўся, безумоўна, блізкай і дарагой яму беларушчыне.

Адзіным відомым дакумантам тагачаснай дзейнасці „Беларускага гуртка" ў Гародні пад духовым кіраўніцтвам кс. Грынкевіча асталася аднадзёнка „Kołas našaj niwy, Hrodno 1913 h." (на самай справе — „Колас беларускай нівы", — Ю.Т.). Гэта ад рукі пісаны зборнічак вучнёўскай літаратуры, адбіты на шапірографе сіняй фарбай. Характар пісьма выказуе вучнёўскі мазоль.

Прадмова, відаць, пісана рукой кіраўніка гуртка (у сапраўднасці — Людвікай Сівіцкай — Зоськай Верас, — Ю.Т.). За тэму ўзята евангельская прыповесць „Выйшаў сейбіт сеяць". Тут гаворыцца аб зярнятах паўшых на рознаякую глебу. Канчаецца перадавіца-прадмова жаданнем, „каб і гэты горадзенскі „Kołas" выдаў хоць маленькі, найменшы каласочак з параю зярнятак: зярнятак кахання бацькаўшчыны і братоў родных".

Шмат жывейшы і цікавейшы змест твораў вучнёўскай прадукцыі. Тут ужо чуваць закіпаючае жыццё, парушаюцца нацыянальныя і сацыяльныя пытанні, не надумна, а пачуццёва і дзеля гэтага — няраз неспадзявана для самых аўтараў — глыбока. Праўда, усё гэта па большай часці перапевы тых самых матываў, якія друкаваліся тады ў віленскай часопісі „Наша Ніва", г.зн.: — мы бедны, загнаны, край наш дарагі любы, а вынік — рвемся з пядолі. Гэтае апошняе слова было выгодным са ўзгляду на цэнзуру, бо нельга было тады пісаць „няволі", за гэта каралі. Царскія чыноўнікі ўтрымлівалі, што царская Расія самая вольная старана пад сонцам. Гэтым выкрутам перад уладай скарыстаўся і гародзенскі „Беларускі гурток".

Усяго ў сшытку фармату пісомай паперы 16 стар. і 16 загалоўкаў розных твораў. Трэба прызнаць за заслугу рэдактарам, што мова ў іх часопісі чыстая, прыгожая з адценкам гародзенскага дыялекту, у якім гавораць „панэ", „валэ", „мужыкэ", „дзяўке" і г.д. Пісана аднадзёнка лацінкай.

Парушаная кс. Грынкевічам у Гародні беларуская стыхія хутка перарасла самога іх сейбіта, асабліва, калі моладзь, кончыўшы гімназію, трапіла ў Петраградзкі ўніверсітэт, саткнулася з моладдзю з другіх беларускіх правінцый і гарадоў. Правінцыяльны патрыятызм моладзі тут хутка ўступіў месца шуканням, як у галіне нацыянальнай, так і сацыяльнай ідэалогіі, і, мала-памалу, у студэнцкіх кругах зараджаецца здаровае народніцтва. Гэты, ужо новыя ідэі, моладзь узваротнай хваляй прывозіла ў сваю правінцыю. Рамкі канфесійнасці, заложаныя „Беларускім гуртком", разляцеліся як пыл і пачынаецца зближэнне — доўга, мазольна і планава дзеленых усякімі нашымі ворагамі і шкоднікамі, — беларусаў праваслаўных з беларусамі каталікамі. Не далей як у год пасля выхаду ў свет гародзенскага „Kołasu" былі ўжо ў Гародзеншчыне гурткі беларускай моладзі, у якіх рэлігійнае пытанне не ставіла падзелу. А гэта быў, як на тыя часы, вялікі крок наперад.

**ЯН з-пад ЛАСОСНЫ**

P.S. Расшыфроўкі псеўданіма аўтара не знаходзім таксама і ў выдадзеным у 1983 г. „Слоўніку беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI-XX ст.ст.)" Янкі Саламевіча.

**Ю.Т.**

*********************************************************************************

## ВЕСТКІ З БЕЛЬСКА

Праводзяць рамонт на вуліцы Міцкевіча. Рамонтныя работы пачаліся ад месца, дзе пачынаецца аўтастрада ў Белавежу. Мяняюць пліткі на тратуарах і г.д.

* * *

Пры вуліцы Міцкевіча, каля базара, будуюцца некалькіпавярховыя будынкі, дзе будуць дзейнічаць прыватныя крамы.

* * *

На базары прадаюцца розныя тавары. Тут можна купіць спажывецкія прадукты і вопратку танней, чым у краме. Гандляры з-за ўсходняй мяжы прадаюць тавары амаль напалавіну танней, чым польскія. Людзі ў іх ахвотна купляюць. Тут можна таксама купіць магнітафонныя касеты.

* * *

Бельск пачаў прыватызавацца. Паўстае штораз больш прыватных крамікаў са спажывецкімі прадуктамі. Ліквідуюць кіёск, дзе прадавалі гародніну пры вул. 3 Мая. Будзе ён прададзены прыватнаму гандляру.

**Аўрора**




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (ІІ АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 50 —

**Раздзел XXIII**

**Справа выбараў у Віленскі Сейм. Перадвыбарчая агітацыя і пастановы беларускіх груповак. Пастанова групы Алексюка ў справе выбараў у Віленскі Сейм. Пастанова Віленскага і Варшаўскага сеймаў.**

Як ужо было раней сказана, Польшча пастанавіла склікаць Сейм у Вільні, які вырашыў бы лёс Віленшчыны. Аднак, большасць беларускіх арганізацый выказалася супраць выбараў і аб'явіла іх байкот.

Беларускі народны камітэт аставаўся ў цесным кантакце з урадам Ластоўскага ў Коўне.

Луцкевіч, былы старшыня Савета Міністраў кампраміснай Найвышэйшай Рады, бачачы яўную перавагу ўплываў Ластоўскага і эсэраўскага напрамка, пагадзіўся з новай сітуацыяй і хаця навонкі праяўляў супраціў у адносінах да поглядаў Ластоўскага, у сапраўднасці напрамак дзейнасці „Вільнацбелкому", стваральнікам якога ён быў і на чале якога стаяў, падпарадкаваў палітыцы, накрэсленай Коўнам. У сувязі з перавагай уплываў эсэраў, лініяй, па якой ішла палітыка беларускіх дзеячоў, была лінія, заключаная ў тайнай дамоўленасці эсэраў з бальшавікамі ў 1919 годзе.

У перадвыбарчы перыяд уплывы Ластоўскага ў Цэнтральнай Літве значна ўзраслі. Яго агітацыя знаходзіла адгалосак не толькі сярод беларусаў, але і сярод літоўскага, яўрэйскага і рускага элементаў, якія былі варожа настаўлены да Польшчы.

Характар агітацыі Ластоўскага вынікаў з залежнасці яго і яго ўраду ад Ковенскай Літвы. Інспіраваная ім прэса і яго староннікі не маглі ісці выключна ў напрамку рэалізацыі беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Згодна з дамоўленасцю паміж урадамі Ластоўскага і ўрадам Ковенскай Літвы, беларускі ўрад абяцаў „намагацца, каб жыхары-беларусы ў тых мясцовасцях, дзе мае быць праведзены плебісцыт паміж Літвой і Польшчай, аддавалі свае галасы ў карысць Літвы".

З увагі на нямецкія ўплывы ва ўрадзе Ковенскай Літвы, Ластоўскі і з імі мусіў лічыцца. Апрача гэтага, немцы згадзіліся даць беларусам пазыку, якая была прызначана на антыпольскую акцыю.

Адсюль ва ўсёй палітыцы Ластоўскага відаць перад усім востры антыпольскі напрамак. Ковенская Літва праяўляе ў той час прыхільнасць да беларусаў, дае на сваёй зямлі прытулак беларусам настолькі, наколькі яны падтрымлівалі Літву ў яе канфлікце з Польшчай за Віленшчыну. Таму давалі магчымасць і сродкі на прапаганду сярод беларусаў — грамадзян Рэчыпаспалітай Польскай.

Увага Ластоўскага і яго агітацыя былі скіраваны перад усім на гродзенскую і віленскую землі.

На Гродзеншчыне акцыя гэта мела выключна канспірацыйны характар. У Гародні мелі сваю законспіраваную кватэру агенты Ластоўскага, якія атрымлівалі з Коўна матэрыяльныя сродкі і агітацыйную літаратуру, якую разводзілі па цэлай беларускай тэрыторыі. На Віленшчыне ўплывы і дзейнасць Ластоўскага былі вельмі актыўныя і ішлі разам з антыпольскай дзейнасцю літоўцаў і апазіцыяй яўрэяў.

Праз Гародню і Вільню ўплывы Ластоўскага працякалі ў глыб Рэчыпаспалітай. Было гэта пацверджана на цэлай тэрыторыі Навагрудскага ваяводства.

*(Працяг будзе)*

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



–Як хутка прыйшла гэта восень!..

Фота М. Лукшы.

*******************************************************************

Павеялі халодныя паўночныя вятры. Многія птушкі паляцелі ў вырай. А вераб'і замітусіліся ў сваіх неглыбокіх гнёздах.

— Чык-чырык! Трэба ратавацца ад холаду! — зачырыкаў верабей Хітрун сваёй сяброўцы і паляцеў шукаць зручнейшае месца для зімоўкі.

Залез у ластаўчына гняздо — не падыходзіць. Пасля агледзеў шпакоўню і задаволена пакруціў галавой: вялікая хата, на ўсю сям'ю хопіць. І вецер не гуляе: добра змайстравалі дзеці. Але ж надта прасторная, холадна будзе зімой. Рашыў Хітрун нанасіць курынага пер'я ў шпакоўню, каб уцяпліць яе. Пер'я на дварэ хапала. Занёс пяро, другое, трэцяе, а знаку — амаль няма. Напрацаваўся адзін, стаміўся. Паляцеў дадому і зачырыкаў сярдзіта:

— Чаго калоціцеся ад холаду? Чаму не памагаеце хату ўцяпляць?

— Чыю хату? — здзівіліся верабейчыкі.

## ВЕРАБ'І -НАВАСЁЛЫ



— Нашу хату, зімовую, — зачырыкаў верабей. — Бярыце ў дзюбкі па пяру і ляціце за мной. Чык-чырык! Дружней, дзеткі!

Вераб'і заскакалі па двары. Хітрун першы ўспырхнуў на грушу і палез у шпакоўню. Вераб'іха і дзеці — за ім.

— Чык-чырык! Яшчэ прынясіце, дзеткі, — папрасіла вераб'іха.

Верабейчыкі старанна насілі пер'е ў шпакоўню.

— Хопіць! Хопіць! — задаволена зачырыкаў верабей. — Перасяляйцеся цяпер сюды!

„Цудоўная хата! Ніякі мароз у ёй не дастане", — радаваліся вераб'і-навасёлы і хаваліся з галавой у пер'е. Усю зіму жылі яны ў шпакоўні. А вясной зноў перасяліліся ў сваю летнюю кватэру.

Так і вандруюць вераб'і з гнязда ў шпакоўню, са шпакоўні — у гняздо: ратуюцца то ад холаду зімой, то ад гарачыні летам.

ВАСІЛЬ ГУРСКІ

*******************************************************************

## АЛЕШЫНА

Наўрад каб хто калі алешынай захапляўся. Вось беластволая прыгажуня бярозка альбо асінка, ці там клён з дубам, — гэтыя дрэвы каго толькі не зачароўвалі. Ці то вясною, калі дрэўцы толькі накінуць на сябе першую пяшчотную маладую лістоту, ці то восенню, калі яны расфарбуюцца адно прыгажэй за другое, чалавек знаходзіць у іх паэзію і прыгажосць. А вось да алешыны ў любую пару года душа чамусьці застаецца абыякавай.

І сапраўды, што ў ёй цікавага? Аднастайны невысокі хмызняк, не болей. Высокае ж дрэва — з'ява досыць рэдкая. А калі і сустрэнеш, дык хіба толькі дзе ў якой глухамані альбо ў запаведных мясцінах. Ні вясною, ні летам няма ў алешыне нічога такога своеасаблівага, што б магло прыцягнуць да сябе ўвагу чалавека, зачараваць яго позірк. Нават восенню, калі амаль уся раслiннасць перад зімовым сном прыбіраецца ў самае дарагое адзенне, алешына па-ранейшаму застаецца зялёнай.

І ўсё ж яна заслугоўвае ўвагі. Алешына — верны прадказальнік вады. Яна ніколі не вырасце на сухадоле. Абавязкова паблізу павінен быць які гаваркі раўчучок, гуллівая рачулка, ціхае патаемнае балотца альбо вірлівая крынічка. Нават калі гэта будзе якая непрыкметная



тарфяная калдобінка з рыжай, нібы той чай, вадою, то і тут яна смела раскіне над ёй, утвараючы мяккі пень, сваё зялёнае голле.

А дзе вада ды алешына, там абавязкова і салавей. Ніколі гэты цудоўны птах не заспявае ні на хвойцы, ні на бярозцы альбо дубку. Яму падавай менавіта шэрую алешыну з лазою, ды хіба яшчэ чаромху з калінай. А дзе салавей ды алешына, там залацістыя кветкі лотаці, блакітныя зорачкі незабудак, духмяная купеня з лапушыстым капытнікам.

Усё гэта — алешына, салавей, кветкі — адзін суцэльны ланцуг прыроды. Выкінь адно звяно — і ўсё распадзецца, знікне непаўторная прыгажосць.

Вельмі ўстойлівая алешына да халадоў. Здараецца страчаць змёрзлымі розныя дрэвы. А вось перад непрыкметнай алешынай нават усемагутны Дзед Мароз сваю сабаліную шапку здымае.

РЫГОР ІГНАЦЕНКА

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Іван Бурсаў

### СУСТРЭЧА

Сутыкнуліся —
Хоць плач —
Уначы
З савой пугач.
— Вух! —
Пугач
Вачмі патух
І на сук
Са страху
Шух.
— Вой! —
Сава ўзняла
Крыло
І схавалася ў дупло.
Так да рання
Прасядзелі,
Страху ў вочы
Не глядзелі.

### МУХА І ШЭРШАНЬ

Муха
Шэршню дагаджала:
— Ты пазыч мне,
Шэршань,
Джала.
Я на павука
Сярдзіта,
Правучыць хачу
Бандыта...
Выслухаў,
Што просіць муха,
Шэршань
Запытаўся глуха:
— Што за звер
Павук такі?
Можа,
З ім мы —
Дружбакі?..
Як жа дам
Табе я
Джала,
Каб ты сябру
Пагражала?

З рускай мовы пераклаў
Рыгор Барадулін.

Уладзімір Мазго

### АСА І ВАЛАСЫ

У мяне
У валасах
Заблудзілася
Аса.
— Бедная галоўка! —
Кажа сябар
Лёўка. —
Кідай, дружа,
Гульні.
Мігам —
Да цырульні!..
Я паслухаў
Лёўку:
Стрыгся...
пад нулёўку.

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### МЫШКА ПІК-ПІК РОБІЦЬ САБЕ МАКІЯЖ

Аднойчы днём прысніласе мышцы Пік-Пік каўбаса. І так захацелася мышцы яе з'есці, што і сон прапаў. Пік-Пік думала: „Котцы Пепіце далі цэлую палку каўбасы за прыгажосць. А я — самая прыгожая мышка ў свеце! Чаму ж ніхто не прапануе каўбасу мне? Што ж зрабіць, каб на мяне звярнулі ўвагу?"

І ўспомніла мышка, як Веранічкіна мама робіць макіяж — фарбуе павекі align рознакаляровымі парашкамі, якія называюцца „цені", зачарняе вейкі тушшу, пудрыцца, намазвае вусны памадай, а пасля тата ёй кажа: „Якая ж ты ў мяне прыгожая!"

„Трэба зрабіць макіяж!" — вырашыла мышка.

Залезла мышка на пісьмовы стол, зняла з паліцы скрынку з мамінай касметыкай і села перад люстэркам.

Больш за ўсё мышцы спадабалася памада ў прыгожым залатым футаралчыку. Пафарбавала мышка памадай нос. Ах, як прыгожа! Нафарбавала яшчэ вушы і хвосцік. Пасля Пік-Пік зачарпнула лапкай туш і нафарбавала вусы. „Гэтага мала", — падумала мышка і абвяла вочкі чорнымі кругамі.

Што б яшчэ памазаць? Адкрыла мышка Пік-Пік каробку з мамінымі ценямі. Там было многа-многа рознакаляровых квадрацікаў.

„Ну, не буду ж я па адной фарбе важдацца!" — вырашыла мышка. Лягла яна проста на цені і некалькі разоў па іх перакачалася.

Скурка ў Пік-Пік зрабілася стракатая, рознакаляровая, як вясёлка. Знайшла мышка яшчэ футаралчык з бліскучынкамі, адкрыла яго і ўсе бліскучынкі на сябе высыпала!

У давяршэнне Пік-Пік зачарпнула пудры і напудрыла шчокі і лоб.

„Вось цяпер ва ўсім свеце няма нікога прыгажэйшага за мяне!" — падумала мышка і важна пайшла, задзершы носік, паказацца ўсім.

У зале сядзеў тата і чытаў газету. Раптам нехта перад ім сказаў: „Пі-пі!" Тата падняў вочы і ўбачыў, што на яго ідзе стракатая, бліскучая істота, з чырвонымі вушкамі, чорнымі вусамі, белымі плямамі на шчоках і доўгім чырвоным хвастом!

„Гэта іншапланецянін!" — падумаў тата. — „Зраблю выгляд, што мяне няма, а то ён забярэ мяне ў лётаючую талерку!"

І тата падціснуў ногі і схаваўся пад газету.

„Што гэта з Веранічкіным татам?" — здзівілася мышка Пік-Пік і пашыбавала на кухню. А там сядзелі мама, Веранічка і Пепіта і пілі цёплае малако.

І вось зайшло на кухню стракатае бліскучае страшыдла з чырвонымі вушамі і чорнымі вусамі! Мама вырашыла ратаваць сям'ю і лінула на страшыдла сваё малако. А з другога боку на страшыдла абрынулася малако з кубачкаў Веранічкі і Пепіты.

На падлозе ўтварылася вялікая белая лужына з рознакаляровымі разводамі. А ў лужыне сядзела разгубленая шэрая мышка.

Засмяяліся мама, Веранічка і Пепіта. А мышка Пік-Пік заплакала. Яна так старалася, а тут усю прыгажосць змылі!..

Усе перасталі смяяцца, і мама дала мышцы кавалак каўбасы, каб мышка



*Мышка Пік-Пік - прыгажуня.*
**Мал. Асі Нікіцюк.**

не плакала. Схапіла мышка Пік-Пік каўбасу і пабегла ў норку.

А мама, Веранічка і Пепіта пайшлі ў залу і там убачылі пад газетай тату. „Што ты робіш?" — здзівілася мама.

„Тс-с-с!" — сказаў тата. — „За мной прылятаў іншапланецянін. Можа, ён яшчэ шукае мяне!.."

Пагалядзелі мама, Веранічка і Пепіта вакол і не знайшлі ніякага іншапланецяніна. Тады тата згадзіўся злезці з крэсла і схаваўся пад коўдру на ложку.

А мышка Пік-Пік з'ела каўбасу і заснула, думаючы: „Я ўсё-ткі самая прыгожая мышка ў свеце!"

І спала яна так крэпка, што яе не разбудзіў нават роспачны крык мамы, якая знайшла на стале тое, што засталося ад яе касметыкі!

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

## *Пішуць вучні*

**Добры дзень, „Зорка"!**

Пішуць табе дзяўчаты з калектыву „Крынічанька" з Кляшчэль. Хочам расказаць табе пра нашы канікулы.

На пачатку жніўня дзесяць з нас паехала на адпачынак у Гданьск. Амаль усе мы былі ў гэтым горадзе першы раз.

Жылі мы ў памяшканні БГКТ на вуліцы Доўгі Тарг, насупраць фантана Нептуна. У Гданьску мы былі толькі тыдзень, але паспелі пабачыць і Гданьск, і Сопат, і Гдыню. У адзін дзень, калі было асабліва цудоўнае надвор'е, мы паехалі на пляж, плавалі ў моры і загаралі. На жаль, вельмі хутка скончыўся гэты цудоўны тыдзень і трэба было вяртацца ў Кляшчэлі.

Дарагая „Зорка", хочам на тваіх старонках падзякаваць спадару Міхалу Куптэлю, дзякуючы якому мы мелі магчымасць прыехаць у Гданьск, а таксама яго дачцэ Майцы — яна была з намі амаль цэлы час і паказала нам горад.

**На здымку — „Крынічанька" ў Балтыйскім моры.**

**Бажэна і Віялета Селевановіч**



************************************************




— Вовачка, дзе твой школьны дзённік?
— Яго Колька ўзяў. Бацькоў сваіх пужаць будзе!

* * *

Намаляваў Вовачка муху на акулярах настаўніцы. Яна надзела акуляры, пачала махаць рукамі, зганяць муху. Так прайшоў урок. За гэты час настаўніца зразумела, што муха — намаляваная.

— Дзеці, хто намаляваў муху?

Усе паказалі на Вовачку.

Прыходзіць настаўніца да Вовачкінага бацькі.

— Уяўляеце, ваш Вовачка намаляваў у мяне на акулярах муху!
— Ну і што?
— Як гэта што?! Урок жа прапаў!
— Падумаеш — урок! Вунь ён тыдзень назад намаляваў бочку піва на плоце, і мы з суседам паўдня ў чарзе за півам стаялі!!!

**(В.Б.)**

**Беларускія гульні**

## ВАЎЧАНЯ

Дзеці з дапамогай лічылкі выбіраюць ваўчаня, астатнія — паляўнічыя. Яны адвольна перамяшчаюцца па пляцоўцы, перакідваюць адзін аднаму мяч, стараючыся выбраць зручны момант і лёгка ўдарыць мячом па спіне ці па нагах ваўчаня. Калі ваўчаня набліжаецца, паляўнічы, у якога мяч, уцякае або аддае мяч іншаму. Калі ваўчаня зловіць мяч на ляту, то кідае яго за межы пляцоўкі. Паляўнічы, па віне якога мяч быў злоўлены, вяртае яго ў гульню. Той, каму ўдаецца падбіць ваўчаня, мяняецца з ім ролямі.

Працяглы час бегаць з мячом, не кідаючы яго, забараняецца; надыходзіць да ваўчаня бліжэй як на 5-6 крокаў не дазваляецца.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



**Спалучы лічбы. Што атрымалася на малюнку?**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Беларусь, 246049, г. Гомель, вул. 60 год СССР, д. 4, кв. 130, **Данчэнка Святлана** (10 гадоў, вучыцца ў музычнай школе, збірае паштоўкі, значкі, каляндарыкі, хоча перапісвацца з дзяўчынкай).

* * *

Беларусь, 211120, Віцебская вобл., Сенненскі раён, г. Сенна, школа-інтэрнат, д. 1, кв. 2, **Пагарэльскі Жэня** (13 гадоў, збірае маркі, укладкі ад жавачак, пер'е дзікіх птушак, любіць жывёл і Арнольда Шварцэнэгера).

* * *

**Аляксандра Палій** з Ліды: Ты не падала назвы вуліцы, на якой жывеш! Пішыце свае дакладныя адрасы!

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Мілы Астроне! У адну ноч мне прысніліся два цікавыя сны. Спачатку быў сон аб тым, быццам у мяне ўкралі грошы. Я вельмі перажывала гэта.

Пасля поўначы сніўся другі сон — быццам бы я дала некаму падарунак. Не ведаю толькі, што гэта дакладна было — спачатку мне здавалася, што гэта брошка, а пасля, што гадзіннік.

А на наступную ноч прысніўся мне зусім нейкі кашмарны сон. Быццам бы ў нас адбылася атамная катастрофа (не ведаю, ці нехта кінуў бомбу, ці аварыя на электроўні). Я ўцякаю, быццам нехта мяне гоніць, але не ведаю хто. Не ведаю, дзе я знаходжуся, але быццам у нейкім пакоі без мэблі, з драўлянымі сценамі, у нечым накшталт каморы. Я хачу выйсці адсюль і націскаю на адну сценку, а яна, як дзверы, адкрываецца пад дотыкам маёй далоні, але я апынаюся ізноў у каморы, тады націскаю на драўляную сцяну ізноў і ізноў дзверы адчыняюцца, а я ўваходжу ў наступную камору — і так бясконца. Нарэшце мне ўдаецца выйсці адтуль. Я апынулася ў нейкім тэатры, бачу, а там стаіць мой муж з унучкай. Я вельмі ўцешылася, што яны жывыя і іх знайшла.

**Людміла**

Мая свякруха хворая. Ляжыць у бальніцы. І вось прысніўся мне такі сон. Свякруха купіла ў кіёску каву. Яе ашукалі. Я пайшла з ёю, пасварылася з прадаўшчыцай і яна грошы звярнула. Ідзем дадому. І тут між намі апынуўся самаход, бо самаходы наехалі адзін на другі. У выніку я апынулася збоку, а свякруха недзе прапала. Меншыя самаходы раз'ехаліся, а гэты вялікі быў пашкоджаны і яго таксама забралі. І тут я ўбачыла, што на зямлі ляжыць мая свякруха. Назбіралася людзей і тут жа прыехала „хуткая дапамога". Яны хацелі свякруху забраць. Але я не згаджалася, бо ніякіх пашкоджанняў у яе не было. Я папрасіла, каб „хуткая" адвезла свякруху дадому. Яны так і зрабілі, а свякруха ўстала і кажа: „Мне нічога не баліць" і пачала хадзіць. І канец сну.

**Таня**

Людміла! Твае сны кепскія. Тое, што ў цябе ўкралі грошы, прадвяшчае нейкую небяспеку. Даваць падарункі таксама кепска і абазначае гэта непрыемнасць. Іншая справа была б, калі б нехта табе даў падарунак, — тады гэта магло б абазначаць для цябе нейкі прыбытак. Што датычыцца твайго трэцяга сну аб тым, як ты ўцякала, як не магла вырвацца з чарговых камор, можа абазначаць небяспечнае падарожжа. А калі ты вырвалася нарэшце адтуль, дык і так апынулася ў тэатры, што абазначае нейкі фальш вакол цябе. Дзякуй Богу, што ўсё ж знаходзіліся дзверы, праз якія ты магла вырвацца з гэтых камор, ды што знайшла, жывых і здаровых, сваіх блізкіх.

Таня! Твой сон навеяны жыццём. З гэтай тваёй свякрухай можа быць так, як і прыснілася ў сне, што была ў катастрофе, але ўстала і нічога кепскага з ёю не здарылася. Можа, падлечаць і нічога ёй не будзе, чаго табе ад усяго сэрца жадае

**АСТРОН**

**************************************************

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-132-3, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

| | |
|---|---|
| 3843. Ясьвіловіч Ян (Англія) | — 15 фунтаў |
| 3844. Наўмовіч Міхал (Францыя) | — 600 франкаў |
| 3845. Грушчук Генры (ЗША) | — 20 ам. дол. |
| 3846. Кузьміцкі Янка (ЗША) | — 10 ам. дол. |
| 3847. Шыкалюк Міхась (ЗША) | — 20 ам. дол. |
| 3848. Шыкалюк Янка (ЗША) | — 10 ам. дол. |
| 3849. Грышчук Васіль (ЗША) | — 20 ам. дол. |
| 3850. Вайтовіч Мікола (ЗША) | — 15 ам. дол. |
| 3851. Чамлякоў Адам (ЗША) | — 10 ам. дол. |
| 3852. Кітальскі А. (ЗША) | — 10 ам. дол. |
| 3853. Махнач В. і М. (ЗША) | — 100 ам. дол. |
| 3854. Чарнецкі Аляксандр (ЗША) | — 10 ам. дол. |
| 3855. Бяленіс Яўгенія (ЗША) | — 10 ам. дол. |
| 3856. Бяленіс Антон (ЗША) | — 50 ам. дол. |
| 3857. Кучура Мікола (ЗША) | — 20 ам. дол. |
| 3858. Багдан В. (ЗША) | — 10 ам. дол. |
| 3859. Наваградскі Ян (ЗША) | — 5 ам. дол. |
| 3860. Андрэюк Яўген (ЗША) | — 50 ам. дол. |
| 3861. Прускі Мікола (ЗША) | — 50 ам. дол. |
| 3862. Сп. Зора і Вітаўт Кіпель (ЗША) | — 500 ам. дол. |
| 3863. Субота Адольф (ЗША) | — 100 ам. дол. |
| 3864. Карніловіч Сяргей (ад экскурснікаў з ЗША) | — 100 ам. дол. |
| 3865. Жамойцін Ян (Варшава) | — 100.000 зл. |

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42. Тэлефон 30-16.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Шаноўнае Сэрцайка, Аня ў 45-ым нумары „Нівы" расказала нам усім пра факт, які мела яна прыемнасць аглядаць на пляжы ў Супраслі. Нешта падобнае здарылася і мне. Я паехала адпачываць на мора. На пляж мы хадзілі заўсёды, дзе найбліжэй. А было гэта якраз каля санаторыя, дзе адпачывалі недаразвітыя людзі.

Неяк адразу кінуўся мне ў вочы мо 25-гадовы хлапец. Даволі прыстойны, апрануты ў модны спартыўны касцюм — дрэсы, ён амаль заўсёды хадзіў са сваёй маці. Я адразу нічога не падазравала — на вока ўсё выглядала нармальна. Але аднойчы я ўбачыла, што калі яны варталіся з абеду, гэты малады чалавек пайшоў да свайго пад'езда проста праз кветнік. Маці прыкрыкнула на яго, так як крычаць на малых дзяцей, і хлапец паслухмяна павярнуў на тратуар. Я была ашаломлена, не падазраваючы яшчэ нічога.

На наступны раз я ўбачыла, як гэта маці бегла ў роспачы на мора, шукаючы свайго сына. Мы бачылі, што ён хадзіў па пляжы, і сказалі ёй аб гэтым, а яна пабегла далей, і ўрэшце знайшла свайго сына. Цягнула яго назад за руку, усё прыгаворваючы: „Колькі разоў я буду табе гаварыць, каб ты адзін не хадзіў на мора!"

Жанчына, якая ляжала побач, пачала спачуваць гэтай беднай жанчыне і расказала нам, што сын яе недаразвіты, што яго розум на ўзроўні пяцігадовага дзіцяці. Я вельмі здзівілася і сказала, што пяцігадовае дзіця па кветніках ужо не ходзіць. А мо ў яго нават розум двухгадовага дзіцяці, сканстатавала я...

Розум розумам, але фізічна быў развіты — дай Божа здароўя! Мы вельмі хутка пераканаліся, што ўсё, акрамя розуму, у яго на месцы. Быў вельмі парны дзень, і маці з сынам прыйшлі на пляж. Крыху загаралі, а пасля пайшлі купацца. Выйшаўшы з даволі халоднай вады, маці і сын з асалодай расцягнуліся на гарачым пяску. Праз нейкі час маці задрамала. Сын, быццам нейкі звярок, неспакойна агледзеўся навокал. Відаць, прыйшоў да вываду, што калі маці спіць, дык ён бяспечны. Тады рашуча сцягнуў штаны на калені, паказаўшы свае вялікія „габарыты", і пачаў ананізавацца, стоячы і спаглядаючы на ляжачых навокал паўголых жанчын. Рабіў гэта з такім азартам, з такім самазахапленнем, што ўсе галовы да адной павярнуліся ў яго бок. Людзей агарнуў нейкі жах. Людзі дадумаліся, што гэты прыстойны і прыгожы малады чалавек з недалёкага санаторыя. Маці спала моцным сном, а людзі не маглі адважыцца, каб абудзіць яе, тым больш, што сын стаяў побач. Нарэшце маці, якая хацела перавярнуцца на другі бок, убачыла, што дзеецца. Ускочыла, нацягнула сыну штаны, сказала яму апрануцца, апранулася сама і, павесіўшы галаву, яна пайшла з пляжа, цягнучы за сабой нешчаслівага сына.

Доўга яшчэ ўсе мы не маглі супакоіцца. Скажы, Сэрцайка, чаму ў жыцці так бывае, што на гэткія справы дык і ў неразумных розум ёсць?..

**Вікторыя**

Вікторыя! А яму да гэтага розуму не трэба. Цела ў яго, відаць, здаровае, толькі з мозгам клопаты мае. Зрэшты, псіхічна хворыя людзі вельмі часта маюць большыя сексуальныя патрэбы, чым здаровыя людзі. Вядома, галава не занята разумнымі, а тым больш цяжкімі думкамі. Спакойны, нястомлены ні фізічнай, ні разумовай працай, ён бы ў любы момант, думаю, гатоў быў пераспацца з жанчынай, ды толькі, бядняга, не ведае, што гэтак можна...Ахвотныя сказаць яму аб гэтым знайшліся б, але хто ж гэта зробіць, калі мама ўвесь час пільнуе...

**СЭРЦАЙКА**

## КУХОННЫЯ ПЯРЭДЫ

### З ІТАЛЬЯНСКАЙ КУХНІ

У Італіі пякуць і цэлых куранят, але найчасцей іх, ды наогул птушку, дзеляць на порцыі, падсмажваюць, а пасля тушаць у далікатным соусе. Яшчэ смачнейшыя куранияты, калі дадаць да іх грыбоў і гародніны, макарону і рысу.

Асабліва цікавыя ў італьянскай кухні бываюць фаршы, дзякуючы якім смак птушкі шмат павышаецца.

#### КУРЫЦА ФАРШЫРАВАНАЯ

На 1 маладую курыцу разам з вантробамі трэба ўзяць 750 г змеленага мяса (ялавічыны, цяляціны і свініны), па пяць лыжак пасечанай цыбулі, зялёнай пятрушкі і сэлера, 2 лыжкі пасечанай базыліі, 2 пасечаныя лісткі шалфею, шклянку булёну, 50 г масла, 50 г алею, 250 г чэрствага намочанага і выціснутага хлеба, 50 г сцертага на тарцы жоўтага сыру, 2 яйкі, соль, перац, некалькі скрылёчкаў бачку.

На гарачым тлушчы падсмажыць дробна нарэзаную гародніну са змеленым мясам і курынымі вантробамі (сэрца, пячонка, жалудак), дадаць рэшту прадуктаў і падрыхтаваць фарш. Палажыць яго ў добра памытую курыцу і зашыць яе. Загарнуць курыцу ў скрылёчкі бачку. Моцна звязаць і пячы 15 мінут у гарачай духоўцы. Пасля зменшыць агонь і пячы ў крыху ніжэйшай тэмпературы яшчэ каля 1 гадзіны, пасля чаго зняць скрылёчкі бачку, каб скурка курыцы запяклася і стала хрупкай. У суме курыца пячэцца каля 2 гадзін.

#### КУРЫЦА, ФАРШЫРАВАНАЯ ПА-П'ЕМОНЦКУ

На 1 курыцу трэба ўзяць для фаршу: 375 г меленага нятлустага бачку, 2 цыбуліны, 250 г белых труфеляў, крыху солі, масла.

Дробна пасечанымі прадуктамі нафаршыраваць курыцу, зашыць яе і спячы ў вялікай калькасці масла, часта паліваючы курыцу.

Падаюць курыцу, пасыпаўшы „пармезанам" — з рысам і труфелямі, нарэзанымі скрылёчкамі, і з цёмным маслам.

#### КАЧКА ПА-РЫМСКУ

На 1 качку сярэдняй велічыні трэба ўзяць 250 г змеленай свініны, 50 г масла ці алею, шклянку белага віна, 50 г шынкі, 50 г бачку, 2 цялячыя ножкі, крыху гваздзікі ў парашку на канцы нажа, 1 цыбуліну, 1 морквіну, соль, перац, 1/2 лаўровага лістка, 3 лыжкі сцертай на тарцы сухой булкі.

На гарачы тлушч укінуць змеленае мяса, бачок і шынку, нарэзаныя дробнай костачкай, а таксама цыбулю, перамяшаць з прыправамі і з цертай булкай, палажыць атрыманы фарш у качку і зашыць яе. Тушыць качку ў гарачым тлушчы разам з цялячымі ножкамі, морквай і цыбуляй. У самым канцы тушэння соус працадзіць праз сіта. Будзе ён яшчэ лепшы, калі дадамо да яго зялёнай пятрушкі і грыбоў.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ІМПАРТГУМАР

— Ці можа жанчына зрабіць мужчыну мільянерам?
— Можа, калі ён перад тым быў мільярдэрам.

* * *

Сустрэліся дзве сяброўкі.
— Як табе жывецца?
— Добра. Дача, кватэра, аўтамашына.
— А мой муж гоніць гарэлку і ўсё прапівае.
— А ты адвучы яго піць самагонку. Вазьмі здохлага ката і ўкінь яго ў чыгунок. Убачыць ён ката і піць больш не будзе.

Сяброўка так і зрабіла. Прыйшоў муж і адразу да чыгуна. А жонка назірае за ім праз акно. Муж выпіў самагонку, дастаў ката і, выкручваючы яго над чыгунком, мармыча:
— Коцік даражэнькі, яшчэ хаця б сто грамаў.

* * *

Актрыса: Я хачу, каб жамчужына, якую я надзяваю ў першым акце, была сапраўдная.
Дырэктар тэатра: Усё, усё будзе аўтэнтычнае: і жамчужына ў першым акце, і атрута ў апошнім.

* * *

Стары жывапісец рысуе голую прыгожую маладую дзяўчыну, якая пазіруе як натуршчыца.
— Чаму б нам не адпачыць хвілінку, — гаворыць мастак. — Сядзем, пасядзім, пап'ем чаю.
Толькі яны селі за стол, як у дзвярах павярнуўся ключ.
— Хутчэй раздзявайся, — прашаптаў мастак. — Мая жонка вярнулася.

*Выбраў і падрыхтаваў*
*Янка Целушэцкі*




## ГУМАР З БАРАДОЮ

Заходзіць селянін-беларус да лекарабеларуса і скардзіцца:
— Пан дохтар, мне баляць грэндзі.
Лекар абслухаў хворага і кажа:
— Болём пана грэндзі, бо пан сен пшэстэндзіў.

*(Прыпомніў Васіль Петручук)*






## ЦУД

Прыбег ад кароў Яська Мачуга і раве:
— Ідзіце ўсе! Чалавечы твар у ажынах паказаўся!
— Езус Марыя! — перахрысціўся солтыс. — Трэ ксяндза-дабрадзея паклікаць!

Пабеглі мы пад лес. Сапраўды ў ажынах было штосьці відаць. Быццам мужчынскі твар. Запэцканы, але з вачыма.

Прыйшоў ксёндз-дабрадзей, а за ім бабы. Адразу яны запалілі свечку, а старая Абяжына стала чытаць літанне.
— На ўсялякі выпадак, — сказала яна. — У чатырнаццатым годзе таксама розныя з'явы паказваліся. Відаць, на вайну ідзе.
— Глядзіце, зусім як у цярновай кароне, — заўважыла жонка солтыса.
— І жывымі слязьмі плача, — дабавіла Кваснякова.
— Вельмі на святога Эпіцэнтрыя, мучаніка з Тулузы, падобны, — выказаў сваё меркаванне ксёндз-дабрадзей. — Напішу епіскапу. Можа наша вёска цудамі праславіцца?
— О, крывавіць! Зусім як той замучаны наш польскі народ...
— Ай-ай, рот адкрывае! Прамаўляць будзе!
— На калені! — загадаў ксёндз-дабрадзей.
— Людзі! — прагучала з ажынаў. — Гэта ж я, Квасняк! Выцягніце мяне з гэтых халерных калючак! Па-п'янаму ноччу я сюды ўлез і ніяк выйсці не магу! Больш гэтай праклятай „Балтыцкай" у рот не вазьму! Ніколі!
— Дык вось жа цуд, аднак, здарыўся! — усклікнуў ксёндз-дабрадзей і з хрысціянскай самаахвярнасцю паспяшаў Квасняку з дапамогай.

**МІХАЛ Б. ЯГЕЛЛА**
**(„Карузеля")**

## ВАРАЖБА ПА СНАХ

Калі вам сніцца жанчына, значыць, вы мужчына.
Калі вам сніцца мужчына, значыць, вы жанчына або мужчына.
Калі прысніўся Брэжнеў — гэта к ордэну.
Калі Тэтчэр — вы адыдзеце з работы па вашаму жаданню.
Калі сніцца, што вы жывяце ў раскошнай дачы, падарожнічаеце на яхце з Мадоннай і закусваеце шампанскае амарамі, вас чакае вялікае расчараванне — вы прабудзіцеся.
Калі сніцца, што вы жывяце ў адным пакоі з жонкай і цешчай — у вас ніколі не будзе дзяцей.
Калі сніцца, што душаць, — адно з двух: або радасная сустрэча, або сапраўды душаць.
Калі вам нічога не сніцца, здарыцца такое, што вам і не снілася.

## ПЯТРО КРАСЮК

**Метамарфоза**

Калі Дзмітрэнка працаваў на базе,
У вячэрняй школе першым быў
у класе.
Але калі згубіў сваю пасаду,
Стаў у вучобе ён цягнуцца ззаду.

**Першакласная асвета**

Казаў: — Асвета
ў мяне першакласная, —
Не тое, што ў некаторых з вас.
А нездагадлівым не ўсё тут ясна,
Што ён закончыў толькі першы клас.

**Здзівіў**

З Пятрэнкі ўсе знаёмыя здзіўляліся:
Спяваў у хоры тэнарам ўвесь час;
А як у цэхком яго абралі,
Усе дазналіся: ў Пятрэнкі — бас!

**Цвёрды прадмет**

— Афіцыянта ў галаву
цвёрдым прадметам
Ударыць вы дазволілі сябе!..
— Я не пярэчу... Той
прадмет — катлета,
Што на абед прынёс ён мне.

*З украінскай пераклаў*
*Валерый Бабей*

## КАСЯК НА „Г"




**Управа:** 1/ складаецца з кварцу, палявога шпату і слюды, 2/ далёка ад шашы, 3/ беларускі паэт, магіла якога ў Кракаве, 5/ грашовая плата за надрукаваны матэрыял у „Ніве", 7/ калі ў цябе высокая тэмпература, 10/ штучнае ацяпленне або моцны алкагольны напітак без аднаго „а", 12/ Беласток, 13/ від ажурнай вышыўкі.

**Улева:** 1/ белы з неба, але не снег, 2/ „сэрца" алоўка, 4/ разнавіднасць тавару, сорт, 6/ побач гэтага касяка, 8/„прадукцыя" жывёлы, 9/ прыбудоўка ля хаты, 11/ моцны раскацісты шум, 14/ ад до да до.

„ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з н-ра 40: Управа:** азбука, Анды, аазіс, архаізм, ачыстка, арэнда, амяла, арол. **Улева:** авал, Афрыка, абліччa, адвар, азіміна, астра, аракул, Алла.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Андрэй Місяюк з Карыціскаў і Лукаш Пацэвіч з Беластока.

*********************************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1992 r. upływa 20 listopada 1991 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- listopad - 10. 000 zł.
- grudzień - 12. 500 zł
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.